PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1861) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 12 СТУДЗЕНЯ 1991 г. ЦАНА 1500 зл.



Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь **Пётр Краўчанка** выступае на 46 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью–Йорку ( тэкст выступлення друкуем на стар. 4–8 ).

## ВУЧОНЫЯ З МЕНСКА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь створаны часовы творчы навуковы калектыў для распрацоўкі тэмы „Духоўная і матэрыяльная культура Беларускага замежжа". У снежні 1991 г. на Беласточчыне пабывала першая група даследчыкаў — праф. **Анатоль Сабалеўскі**, дац. **Яўген Адамовіч**, **Уладзімір Мамонька** з Міністэрства культуры і фотакарэспандэнт „Тэатральнага Менска" **Уладзімір Крук**. Аб мэтах пабыўкі расказвае кіраўнік калектыву праф. Анатоль Сабалеўскі:

— Мы вырашылі асвятліць найбольш вядомыя, найбольш папулярныя з'явы ў беларускім замежжы, якія ў нас, у рэспубліцы, яшчэ малавядомыя, і як найхутчэй давесці іх да чытача. І вось такі першы зборнік, які завяршаем, датычыцца будзе Амерыкі і Польшчы (маецца на ўвазе Беласточчына). Будуць у ім прадстаўлены такія постаці, як Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Барскі, Данчык, фальклорныя тэмы — галоўным чынам з Беласточчыны, беластоцкая „Ніва", якая вядзе прапаганду шырокага спектра. У далейшым мы маркуем апрача постацяў асвятляць культурныя цэнтры, як Гайнаўскі музей (калі ён стане працаваць), Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку ці беларускі лонданскі цэнтр. Гэта ў Беларусі пакуль што белыя плямы. Мы пабывалі ў Гайнаўцы, Белавежы, Беластоку,

( Працяг на стар. 3 )

******************************************************************

## НА СУПОЛЬНАЙ НІВЕ

**У новым 1992 годзе**

**— Так ужо яно ёсць, што ў новы год уваходзім з новымі планамі, з новымі намерамі і з новымі спадзяваннямі. Зараз жыццё жыхараў нашай краіны даволі цяжкое і складанае. Скажыце, калі ласка, з чым Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўваходзіць у новы год?**

— Адказаць на гэтае пытанне нялёгка. Не ведаем, якая будзе матэрыяльная сітуацыя нашай краіны і тым самым беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Усё гэта уздзейнічае таксама і на матэрыяльную сітуацыю Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У такой сітуацыі можам падаць толькі гіпотэзы ды прадставіць нашы пажаданні. Мне асабіста здаецца, — сказаў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ **Аляксандр Баршчэўскі**, — што зараз у Таварыстве і ў яго органах выступілі пазітыўныя з'явы. Дагэтуль, на жаль, у Галоўным праўленні Беларускага таварыства і ў яго Прэзідыуме не было згоды і еднасці. Многія дзеячы БГКТ лічылі сябе напалеонамі на ўласную руку. Не лічыліся з існаваннем іншых, а перш за ўсё з неабходнасцю супольнай дзейнасці. Пасля арганізацыйных перамен, якія наступілі ў канцы кастрычніка мінулага года, зараз маем дачыненне з новай, зусім адменнай сітуацыяй. На функцыі прыйшлі новыя, больш адказныя людзі. Зараз у Прэзідыуме ёсць вялікая ступень згоднасці і гармоніі. На апошнім мінулагоднім пленарным пасяджэнні не было элементаў нянавісці і не было элементаў грызні. Наадварот, было агульнае імкненне да таго, каб дзейнічаць разам. Зараз маем дачыненне з вялікай пасіўнасцю беларускага асяроддзя. Гэта выступае як паўсюдная з'ява пасля развалу палітычнай структуры, якая існавала ў нашай краіне. У такой сітуацыі дайсці да чалавечых сэрцаў даволі цяжка. Сёння нельга дайсці да людзей ні пры дапамозе палітычнага, ні публіцыстычнага, а нават паэтычнага слова. Адзіным магнітам, які ў далейшым прыцягвае чалавечыя сэрцы, ёсць песня — песня мясцовая, фальклорная, але і агульнабеларуская. І таму мне здаецца, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства павінна палажыць найбольшы націск на песенны кантакт з нашымі людзьмі.

А пры нагодзе гэтага кантакту можна даць і палітычнае, і публіцыстычнае, і паэтычнае слова. Я асабіста разлічваю на далейшы наш кантакт з беларускімі вёскамі пры дапамозе нашых мастацкіх калектываў, якіх ёсць даволі многа. Такая форма актывізацыі беларускай вёскі, як існаванне песенных і драматычных калектываў, найлепшыя, бо гэта творчая форма, у якой бяруць удзел самі жыхары Беласточчыны.

Будзем выкарыстоўваць розныя формы дзеяння. Але галоўная форма — гэта каардынацыя з нашага боку развіцця мастацкай самадзейнасці ў беларускіх вёсках. Якраз важнае тое, каб вясковыя самадзейнікі мелі магчымасць паехаць з мастацкай праграмай у другія вёскі, а нават у Рэспубліку Беларусь, бо толькі тады родзіцца ў чалавеку пачуццё вартасці, калі ён тое, што падрыхтаваў, паказаў далёка па-за сваім асяроддзем, і калі тое, што ён паказаў, сустрэлася са зразуменнем, з падтрымкай, а часта нават і з энтузіязмам.

І другая справа — гэта ўвядзенне пастаянных кантактаў Беларускага таварыства з людзьмі, якія прадстаўляюць аматарскую масавую культуру Беларусі. Замежныя самадзейнікі вельмі зацікаўлены тым, каб прыязджаць да нас з выступленнямі. Іх паяўленне на нашых аглядах беларускай песні, фэстынах і іншых культурных мерапрыемствах ўспрымаецца заўсёды цёпла.

Трэцяя галіна — гэта пабудова

( Працяг на стар. 3 )




## ПРЫВІД КАТАСТРОФЫ ЦІ ЎЗЛЁТУ?

### Частка II

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Беларусы не хочуць быць беларусамі. Як жа цяжка сцвярджаць нешта такое мне, карэннаму беларусу. Знаходзячыся часта ў Беларусі, я амаль на кожным кроку сустракаюся з беларусамі, якія, калі толькі даведаюцца аб тым, што я з Польшчы, пачынаюць гаварыць аб сваіх польскіх радаводах. Выцягваюць сваіх бабак, прабабак, дзядоў, прадзедаў, якія быццам бы былі палякамі. І ў гэтым бачу сімптом часу. Гэтыя ж людзі пачынаюць з захапленнем гаварыць пра Польшчу, называючы яе часта „малой Амерыкай". Многія з іх просяць прысылаць ім запрашэнне. „Вы толькі прышліце мне запрашэнне, але не бойцеся, я вас не буду турбаваць. Я там сам пракармлюся, перасплю некалькі начэй на вакзале і ўсё". І вось тут даходзіць да найбольш характэрнай з'явы сучаснага стану польска-беларускіх адносін. Яшчэ некалькі гадоў таму назад у Беларусі сустракаўся я з праявамі пагарды, асуджэння ў адносінах да палякаў, якія прыязджалі на Беларусь і займаліся там спекуляцыяй. Не ведаю, у які момант наступіў псіхалагічны пералом у беларусаў. Пералом гэты зводзіцца да таго, што ад асуджэння міжнароднай спекуляцыі перайшлі яны да захаплення ёю. Думаю, што сёння сотні тысяч жыхароў Беларусі пруцца ў Польшчу, каб спекульнуць і вярнуцца назад. Нядаўна вельмі высока пастаўлены навуковы універсітэцкі супрацоўнік, які зарабляе паўтары тысячы рублёў, адказаў мне, што жонкі некалькіх дэканаў ездзілі ў Польшчу і прывезлі тавараў і долараў на 15 000 рублёў. „Падумай, гаворыць ён мне, гэта ж амаль гадавы мой заробак! Гадавы заробак на працягу трох дзён!"І сапраўды гэта так. Амаль кожны спекулянт, які вяртаецца з Польшчы, вязе назад 200—300 долараў. У сувязі з тым, што цана долара ў Беларусі страшэнна хутка расце і, мабыць, дойдзе да 200 рублёў, неўзабаве вартасць трохсот долараў будзе раўняцца 60-ці тысячам рублёў, гэта значыць, болей чым трыццаці васьмі месячным зарплатам майго знаёмага. А што ж атрымліваецца, калі такія дзікія даходы параўнаеш з заробкамі тых беларускіх грамадзян, якія зарабляюць па 400—500 рублёў у месяц! Атрымліваецца, што такія грамадзяне мусяць працаваць дзесяць гадоў, каб атрымаць столькі, колькі спекулянт атрымае за сваю трохдзённую, а лепш сказаць трохсутачную аперацыю.

Яшчэ параўнаўча нядаўна такі спекулянт з душой у пятках вяртаўся назад у Беларусь, бо баяўся, што тамажнікі знойдуць у яго долары і канфіскуюць іх. І сапраўды такіх выпадкаў было вельмі многа. Сёння маем дачыненне з зусім іншым станам рэчаў. СССР у перыяд свайго развалу зразумеў, што долары незалежна ад таго, якім чынам яны зароблены, прывезеныя ў СССР, могуць дапамагчы прынамсі ў частковым паўстрыманні вострага крызісу. Вось таму можна праз мяжу везці любыя сумы. Сказанае датычыць, зрэшты, і тавараў, якія сёння без абмежавання можна ўвозіць у постсавецкія рэспублікі.

Калі глядзець з гэтага пункту, дык можна ўбачыць у шырокай міжнароднай спекуляцыі добрыя бакі. Добрае праяўляецца ў тым, што спекуляцыйны працэс узбагачае матэрыяльна людзей. Ёсць тут, аднак, і другі, вельмі адмоўны бок медаля. Заключаецца ён у духоўным аспекце. Калі сотні тысяч людзей пакідае свае хаты і сем'і, калі сотні тысяч людзей кідае пастаянную работу і звычайную вытворчасць і кідаецца ў вір спекуляцыі, дык досыць цяжка тут гаварыць аб маральных каштоўнасцях гэтых людзей. Што б мы не сказалі ў абарону такой практыкі, то ўсё ж такі мусім прызнаць адно: беларускі народ будзе станавіцца ўсё болей народам базарным, спекулянцкім, хітрым, камбінатарскім. А ў сувязі з тым, што нацыя наша яшчэ ж не акрэпла ў сэнсе нацыянальнай свядомасці, пад уплывам рынка-базара будзе яна станавіцца ўсё болей касмапалітычнай. Беларуская мова будзе ёй пры такім тыпе заняткаў і практыкі ўсё менш патрэбная, і ўсё болей будзе яна цягнуцца да мовы чужой. Вось у гэтых двух аспектах і бачу вельмі грозныя з'явы, пагражаючыя беларускаму народу.

Як вядома, сіла грошай з'яўляецца сілай у свеце найбольшай. І нішто з ёю зраўняцца не можа. І таму не веру, што мае разважанні ў якой-небудзь ступені зменяць існуючы стан рэчаў. Не зменяць.

**А.БАРСКІ**

******************************************************************************

## З мінулага тыдня

**Пасольства Рэчыпаспалітай Польскай у Маскве** з моманту ліквідацыі СССР стала пасольствам РП у Расійскай Федэрацыі. Адначасна прадстаўляе яно інтарэсы РП у тых краінах-удзельніцах Супольнасці Незалежных Дзяржаў, у якіх Польшча не мае свайго асобнага прадстаўніцтва.

**У заяве**, дадзенай 31 снежня 1991 г. у Брусэлі, дзяржавы Еўрапейскай Супольнасці выказалі гатоўнасць прызнаць апрача Расійскай Федэрацыі восем іншых рэспублік былога СССР, якія зараз уваходзяць у састаў СНД. Краіны ЕС атрымалі ад уладаў Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Казахстана, Малдовы, Туркменістана, Украіны і Узбекістана гарантыі, што будуць яны прытрымлівацца варункаў, сфармуляваных ЕС 17 снежня 1991 г. Кіргістан і Таджыкістан будуць прызнаны таксама, калі дадуць падобныя гарантыі.

**Захад** павінен як найхутчэй даць харчовую і медыцынскую дапамогу былым савецкім рэспублікам, каб прадухіліць магчымыя сур'ёзныя грамадскія хваляванні на тэрыторыі СНД, сказаў **Міхаіл Гарбачоў** у інтэрв'ю для такійскай газеты „Йоміюры Шымбун". Гарбачоў прадбачвае, што самыя вялікія цяжкасці СНД перажываць будзе на працягу двух найбліжэйшых гадоў.

**Савецкія „турысты"** — як мяркуе Міністэрства ўнутраных спраў — вывезлі ў 1991 годзе з Польшчы каля мільярда долараў, зробленых на базарным гандлі.

**У першы дзень новага года** на польска-літоўскім пагранічным пункце Агароднікі — Лаздзіяй рух быў невялікі. У абодва бакі граніцу перасякло каля 2400 чалавек.

**Два жыхары Сэйнаў** захацелі перавезці кантрабандай з Літвы (праз пагранічны пункт у Агародніках) 98 тысяч каробак „Марлбора" вартасцю ў мільярд злотых. „Прадпрымальнікі" былі арыштаваны паліцыяй.

**Белавежскі нацыянальны запаведнік** адзначаў 70-годдзе свайго існавання. З'яўляецца ён самым старым запаведнікам у Польшчы. Большасць яго тэрыторыі (усяго 5 тысяч га) складае зона абсалютнай запаведнасці, у якой знаходзіцца 800 відаў раслін, 1000 відаў грыбоў і 11 тысяч відаў жывёл. Навуковыя даследаванні, якія вядуцца ў Белавежы, маюць міжнароднае значэнне. З нагоды юбілею супрацоўнікі запаведніка паклалі кветкі пад мемарыяльнай дошкай, якая ўвекавечвае яго заснавальнікаў.

# НЯЛЁГКІЯ РАЗМОВЫ

Правадыры 11 былых савецкіх рэспублік, якія 30 снежня 1991 г. сабраліся ў Менску, не дамовіліся ў справе захавання аб'яднаных канвенцыянальных узброеных сіл і пакінулі кожнай з гэтых краін магчымасць ствараць уласныя арміі. Аднак, прыйшлі яны да згоды ў іншай важнай справе — кантролю ваеннага нуклеарнага патэнцыяла. Прынятае пагадненне адабрае пастаяннае аб'яднанае камандаванне над 27000 нуклеарных боегаловак, якія размешчаны на тэрыторыі Супольнасці Незалежных Дзяржаў.

Сустрэча адзінаццаці прэзідэнтаў, якая пачалася каля 11-ай, мела працягвацца 2-3 гадзіны. На 13 гадзіну была нават запланавана прэс-канферэнцыя. Але планы не збыліся. Дзве гадзіны цягнуліся спрэчкі над парадкам дня. Украіна супрацьставілася спробам дыскусіі над праектам статута Супольнасці і гэты пункт быў скасаваны.

Потым на працягу пяці гадзін вялася дыскусія над чарговымі двума прынцыповымі пытаннямі: структурай каардынацыйных органаў Супольнасці і абаронным саюзам.

У ніводным з гэтых пунктаў не ўдалося дасягнуць поўнай згоды. У справе супольных структур была згода ствараць савет шэфаў дзяржаў і савет шэфаў урадаў. Цяжэй стала, калі пачалася дыскусія над будучым абаронным саюзам. Усе згаджаліся ў тым, што трэба ўтрымаць адзінае камандаванне стратэгічнымі сіламі, але на гэтым кампраміс скончыўся. Украіна, Малдова, Азербайджан супрацьставіліся стварэнню якіх-колечы іншых супольных узброеных сіл. У той дзень, калі праходзіла менская сустрэча, прэзідэнт Украіны назначыў камандзіра ўласных пагранічных войскаў, а прэзідэнт Малдовы вырашыў нацыяналізаваць грамадзянскую самаабарону рэспублікі.

З паведамленняў, якія дайшлі да журналістаў, вынікае, што магчымым з'яўляецца падзел былога савецкага марскога флота між Расіяй, Украінай і Азербайджанам. Не была таксама дасягнута згода наконт падзелу платы паміж паасобнымі дзяржавамі — удзельніцамі Супольнасці на ўтрыманне арміі.

Аб тым, якія драматычныя былі перамовы, сведчыць рашэнне актуальнага міністра абароны Яўгенія Шапашнікава, які ў час сустрэчы заявіў аб гатоўнасці падаць у адстаўку. Прапанова міністра не была прынята. Вырашана, аднак, што на працягу двух найбліжэйшых месяцаў, у пераходны перыяд, павінен ён далей заставацца галоўнакамандуючым узброеных сіл.

Сярод многіх складаных пытанняў правадыры краін Супольнасці ставілі на разгляд справу каардынацыі гаспадарчай палітыкі. І менавіта ў гэтай сферы супярэчнасцяў ёсць найбольш.

Украіна, не чакаючы вынікаў менскай сустрэчы, прыняла рашэнне аб ўвядзенні „купонаў шматкратнага ўжытку", якое з'яўляецца падрыхтоўкай да эмісіі ўласнай валюты.

Познім вечарам менская сустрэча шэфаў адзінаццаці краін Супольнасці закончылася. Было падпісана дзевяць супольных дакументаў — у тым ліку пагадненні аб стварэнні савета шэфаў дзяржаў і савета шэфаў урадаў, пагадненне ў справе стратэгічных сіл, а таксама дамовы аб узброеных сілах і пагранічных войсках.

**СЛАВАМІР ПАПОЎСКІ**
*„Rzeczpospolita"*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* У гайнаўскіх актывістаў.
* Яновіч раскаяўся!
* Беларусь і супольніцтва – меркаванні Уладзіміра Коласа з Менска.
* Устаноўчая канферэнцыя Асацыяцыі фальклярыстаў Беларусі.
* Настальгія па вузкакалейнай чыгунцы.

 

# НА СУПОЛЬНАЙ НІВЕ

( Працяг са стар. 1 )

Беларускага музея ў Гайнаўцы. Зроблена ў гэтым напрамку многа. Як вядома, музей расце. Музей мае ўжо канкрэтныя кшталты, гатовы ўжо будынак „А", у якім адбываюцца мастацкія выстаўкі. Справа ў тым, каб музей у далейшым будаваць. А каб яго будаваць і закончыць, патрэбна актывізацыя кожнага беларуса з Беласточчыны ды й з цэлай Польшчы. Можна таксама ўнесці свой уклад, збіраючы патрэбныя этнаграфічныя экспанаты, або працуючы фізічна пры пабудове. І людзі, якія прычыняюцца да пабудовы, будуць мець маральнае права сказаць: „Гэта мой музей", або „Гэта наш музей".

Пры нагодзе хачу сказаць, што мы як Беларускае таварыства адыгрывалі вельмі пазітыўную ролю ў сэнсе мабілізацыі беларускай эміграцыі ў працэсе дапамогі музею. І вось гэтую ролю Беларускае грамадска-культурнае таварыства хоча прадаўжаць таксама і ў гэтым годзе. Я веру, што на наш заклік эміграцыя ў далейшым будзе рэагаваць і будзе дапамагаць Беларускаму музею.

Іншая справа — гэта заняпад асветнай дзейнасці. На жаль, у беларускім асяроддзі маем дачыненне з пэўнымі небяспечнымі з'явамі. Тады, калі ў апошнія гады ў Польшчы незвычайна расце нацыянальная свядомасць, з велізарным зацікаўленнем усім сваім родным, мінулым, сучасным, а таксама і будучым, у беларусаў такі працэс не выступае. А гэта праявілася ў тым, што значна зменшылася колькасць дзяцей на ўроках беларускай мовы. І тут я хацеў бы звярнуцца да ўсіх, хто кампетэнтны, хто мае добрую волю, каб мы ўсе разам пачалі дзейнічаць у тым напрамку, каб гэты адмоўны працэс затрымаць.

І апошняя справа, аб якой я хацеў сказаць некалькі слоў, датычыць не толькі Беларускага таварыства, але і ўсіх беларускіх арганізацый, якія дзейнічаюць у Польшчы. На жаль, мінулы год у сэнсе кантактаў між намі быў вельмі дрэнны. Як вядома, на працягу доўгага часу вяліся вострыя атакі і нападкі на Беларускае грамадска-культурнае таварыства з боку БДА.

Гэтыя атакі і гэтыя сваркі кампраметуюць нас у вачах беларусаў. І таму Беларускае грамадска-культурнае таварыства звернецца да ўсіх беларускіх арганізацый з прапановай пакінуць сваркі, і, захоўваючы аўтаномію, супрацоўнічаць, разам дзейнічаць для адной вялікай справы, якой ёсць захаванне беларускай нацыянальнай свядомасці.

**— У 1992 годзе адбудзецца З'езд БГКТ. Як ідзе надрыхтоўка да яго?**

— З'езд адбудзецца ў кастрычніку. Зразумела, на многа раней будзе праведзена справаздачна-выбарчая кампанія ва ўсіх гуртках БГКТ.

Яшчэ ёсць крыху часу, каб падрыхтавацца да з'езда. Адно з першых сёлетніх пленарных пасяджэнняў будзе прысвечана якраз выбарчай кампаніі. Тады акрэслім усе галоўныя напрамкі нашай перадвыбарчай дзейнасці і акрэслім характар гэтага з'езда.

**— А зараз пра іншае. Што БГКТ плануе ў галіне культурна-асветнай дзейнасці?**

— Беларускае таварыства не будзе адмаўляцца прынамсі ад арганізавання тых культурна-асветных мерапрыемстваў, якія маюць ужо традыцыі і да якіх прыхільна адносіцца наша беларускае асяроддзе, — адказала на гэтае пытанне сакратар ГП **Валянціна Ласкевіч**. — Будзем праводзіць песенныя і дэкламатарскія конкурсы,



а таксама конкурсы драмгурткоў і яшчэ Свята беларускай культуры ды наша беларускае Купалле. Не будзем адракацца ад арганізавання беларускіх фэстываў. Сёлетняе Свята беларускай культуры мы намераны арганізаваць у беластоцкім амфітэатры, а беларускае Купалле ў Белавежы. Так як і раней, дапаможа іх арганізаваць Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры ў Беластоку. Між іншым, ВЦАК запэўніў нас, што дапаможа ў фінансаванні побыту ў Беластоку аднаго мастацкага калектыву з Беларусі, які выступіць на беластоцкай сцэне падчас канцэрта лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня — 92". Супольна будзем арганізоўваць Свята беларускай культуры і Купалле. Не ведаем, ці сёлета зможам арганізаваць этнаграфічны конкурс ці некаторыя семінары: літаратурны і гістарычны. Справа толькі ў тым, ці будзем мець на гэта фінансавыя сродкі.

**— А ці Беларускае грамадска-культурнае таварыства не намерана весці гаспадарчую дзейнасць?**

— Зараз намагаемся нешта рабіць і ў гэтым напрамку, — пачаў свой адказ на пытанне намеснік старшыні ГП **Ян Сычэўскі**. — Нам патрэбна такая дзейнасць, каб мець даходы на культуру, але — як ужо здолелі пераканацца — гэта вельмі нялёгкая справа. Добра было б, каб у нашым беларускім асяроддзі знайшліся добраахвотнікі, якія дапамаглі б нам у арганізаванні гаспадарчай дзейнасці.

Апрача таго, будзем больш



рацыянальна выкарыстоўваць нашы аўтобус і мікробус „Пыса" — між іншым, для турыстычных паездак у Гародню, быць можа, у Менск, а таксама ў другія мясцовасці Беларусі. На маю думку, мы павінны ўваходзіць перш за ўсё ў такія суполкі, на базе якіх маглі б атрымоўваць крыху грошай па патрэбы культурнай дзейнасці.

**— І яшчэ адно пытанне. Якое Ваша ўражанне аб актыве БГКТ?**

— Ёсць у нашым беларускім асяроддзі многа людзей, адданых нашай беларускай справе, — сказала **Валянціна Ласкевіч**. Бачым такое заангажаванне сярод многіх настаўнікаў беларускай мовы, але не толькі. Удзельнікі аматарскіх мастацкіх калектываў сур'ёзна падыходзяць да ўдзелу у конкурсах. Яны толькі патрабуюць крыху заахвочвання з боку кіраўніцтва БГКТ і дапамогі ў арганізацыі выездаў з канцэртамі або пастаноўкамі ў другія мясцовасці. Бо ж яны працуюць грамадскім парадкам. І не хацелі б, каб іх праца была відавочная толькі ў іх мясцовасцях. Мы як Таварыства павінны іх папулярызаваць. Дагэтуль было з гэтым па-рознаму. Бывала, што людзі маглі разлічваць толькі на саміх сябе.

— Але ёсць і такія „дзеячы", якія гавораць, што музей нам непатрэбны і што нам трэба развіваць прафесіянальныя мастацкія калектывы, — уключыўся ў размову **Я. Сычэўскі**. — Калі з першым поглядам нам ніяк нельга згадзіцца, дык з другім можам. Калі ласка, вось для вашых патрэб сцэна ў будынку БГКТ, прыходзьце і развівайце. Перашкод не будзеце мець ніякіх. Запрашаем усіх ахвотных прафесіяналаў. Арганізуйце рэпетыцыі, выступайце перад публікай.

— Я хацеў бы сказаць, — не стрымаўся ад голасу **Аляксандр Баршчэўскі**, — што частка беларускага актыву гэта сапраўды залатыя людзі і залатыя характары. Без іх Беларускае грамадска-культурнае таварыства нічога не значыла б. Але нельга гэтак сказаць аб усіх. Які ж балючы такі факт, што некаторыя так званыя актывісты БГКТ даволі дынамічна працавалі, калі былі на штатах Таварыства, а калі адышлі з працы, дык на працягу многіх гадоў не паяўляліся ў Таварыстве і не ўключаліся ў яго дзейнасць. Ёсць, на жаль, і такія асобы, якія яшчэ да



нядаўна працавалі ў ГП БГКТ, а зараз нават пагражаюць Таварыству, пужаюць яго, намагаюцца псаваць яму апінію. Гэта зусім выпадковыя людзі, псеўдаактывісты, якіх час адмятае, бо яны ўрэшце паказваюць свой сапраўдны твар. Твар абсалютна не беларускі.

**— Ад чаго новыя штатныя работнікі Галоўнага праўлення БГКТ пачалі сваю працу?**

— Ад кантактаў з беларускімі актывістамі, — сказала В.Ласкевіч. — Былі ў школах у Бельску і ў Рыбалах, у самадзейнікаў з Ляўкова, Меляшкоў, Гарадка і Рыбалаў. Гурткі і калектывы ГП БГКТ — асноўная база нашай дзейнасці. Рэактывавалі камісіі асветы і культуры пры ГП БГКТ. Зараз шукаем — пры нагодзе і праз „Ніву" — спонсараў, якія б жадалі дапамагчы нам у арганізацыі культурных мерапрыемстваў. Спонсараў будзем шырэй паказваць на старонках нашага беларускага штотыднёвіка.

**— Гурткі — гэта паказчыкі дзейнасці БГКТ, яго тэрмометр?**

— Слушнае параўнанне, хаця некаторыя лічаць, што гурткі з'яўляюцца лішнім баластам у дзейнасці, — адказаў **А. Баршчэўскі**, — што непатрэбныя яны. Гурток стварае магчымасці масавай, а найважнейшае, канкрэтнай дзейнасці БГКТ ва ўсіх галінах жыцця — дзейнасці не толькі культурніцкай.

Гутарылі
**Віталь Луба**
**і Янка Целушэцкі**

**************************************************

## ВУЧОНЫЯ З МЕНСКА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

( Працяг са стар. 1 )

Варшаве, сустрэліся з людзьмі — носьбітамі фальклору, літаратуры і мастацтва. У нас была цікавая сустрэча з Тамарай Тарасевіч — перспектыўнай мастачкай цікавага накірунку. Пазнаёміліся мы з пабудовай музея. Канстанцін Майсеня і яго супрацоўнікі робяць сапраўды вельмі карысную справу. Тое, што мы бачылі, кантакты з канкрэтнымі людзьмі выдатна папаўняюць даследаваную намі тэму.

Таксама ў снежні прыехала на Беласточчыну другая група навукоўцаў з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору — праф. **Анатоль Фядосік**, д-р **Арсень Ліс**, д-р **Іван Крук** і дырэктар Музея-архіва літаратуры і мастацтва **Галіна Сурмач**.

*

У мовазнаўчай канферэнцыі, якая ў снежні мінулага года адбылася ў Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, удзельнічалі навукоўцы з Беларускай нацыянальнай камісіі Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа: акадэмік **Мікола Бірыла**, праф. **Аляксандр Падлужны** і навуковыя супрацоўнікі: **Лілія Выгонная, Ганна Арашонкава, Тамара Трухан і Фёдар Клімчук**.

— Мы трэці раз удзельнічаем канферэнцыях у Беластоку, — сказала Лілія Выгонная,— якія прысвечаны вывучэнню паўночна-ўсходніх гаворак Польшчы. Мы цікавімся беларускімі гаворкамі пераходнай зоны, а тут яны ёсць, і вельмі цікавыя. Тое, што мы робім на сваёй тэрыторыі, мае пэўную цікавасць для нашых калег з гэтага боку. У свой час з праф. Альжбетай Смулковай мы праводзілі параўнанне даследаваных намі матэрыялаў на Беларусі і ў паўночна-ўсходняй Польшчы, пісалі разам артыкулы. З гэтага вынікае, што гэта адзін пас гаворак. Кантакты з польскімі мовазнаўцамі вельмі карысныя. Дапамагаюць яны нам у дзейнасці, і польскім вучоным — таксама.

**В. ЛУБА**



 




## СВЯТАЯ ПРАПАДОБНАЯ ХАРЫТЫНА

Сярод беларускіх святых мала сустракаецца жанчын, жыццё і кананізацыя якіх агульнавядомыя. Адна з іх — гэта прападобная Харытына, дачка літоўскіх князёў. Ужо бацькі прападобнай Харытыны пакінулі язычніцтва і прынялі хрысціянства. Аднак літоўскія князі, змагаючыся між сабою за ўладу, праследавалі хрысціян. Вынікам гэтага быў выезд святой Харытыны і яе бацькоў з Літвы ў Ноўгарад. Там княгіня ўступіла ў жаночы Петрапаўлаўскі манастыр.



Жаночыя манастыры ў XIII стагоддзі былі месцам, дзе спыняліся не толькі паслядоўніцы Ісуса Хрыста. Часта ў іх прабывалі ўдавіцы і дзявіцы, якія не выйшлі замуж, асабліва з баярскіх родаў. Прападобная Харытына ўступіла ў манастыр з жаданнем служыць Богу. Яна вяла аскетычнае жыццё. Адданасць веры і паслуга людзям давяла святую да ігуменства. Харытына была ігуменню Петрапаўлаўскага манастыра да смерці. Памерла яна 5 кастрычніка 1281 года. Святыя нятленныя мошчы былі пахаваны ў Петрапаўлаўскай манастырскай царкве. Праваслаўная Царква кананізавала прападобную Харытыну і дзень яе смерці ўстанавіла днём памяці аб святой літоўскай княгіні.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

## Свойскія малюнкі



**Беласток.**
Вул. І. Бялуўны.
*Мал. У. Петрука*

**********************************************************************

# СКУЛЬ ГРОШЫ НА ШКОЛУ?

Сацыялізм, які ён ні быў у палітычных дачыненнях, але школы пабудаваў дый даў для народу дармовую асвету. Кажуць, што вяртання ў мінулую эпоху не будзе — гэта факт, але фактам і тое ж, што нават у капіталізме, ці ў імперыялізме, дзяржава дбае пра адпаведныя ўмовы для школ, навучанне ў якіх бясплатнае. У Польшчы ж дзяржава ратуе бюджэт, беспардонна рэжучы ўсякую датацыю школьніцтву.

У Саках школа не такая ўжо малая, бо другая ў гміне, пасля кляшчэлеўскай. У школе займаецца 62 вучняў, 11 дзяцей ходзіць у прадшкольны аддзел, 8 настаўнікаў працуе на поўных штатах. Школа новая і прыгожая, але не зусім яшчэ завершана. Тры класы і гімнастычная зала чакаюць заканчэння ў іх будаўніча-рамонтных працаў. Зараз не хапае ў школе памяшканняў дзеля нармальнага навучання. Адзін нешматлікі клас, чатырох вучняў, прымушаны карыстацца са школьнай кухні — паставілі там дзве лаўкі, чатыры крэслы, дошку і такім чынам адбываюцца ўрокі. Гэта адзіны клас, які вучыцца асобна — у іншых жа



*Аліна Вежба – дырэктарка школы ў Саках.*

настаўнікі, з увагі на брак залаў, праводзяць злучаныя ўрокі.

У пачатку 1991 года кіраўніцтва школы ацаніла заканчэнне пабудовы на 500 мільёнаў злотых. У тым жа годзе школа атрымала з Кураторыі асветы і выхавання ў Беластоку ліміт (80 мільёнаў) на заканчэнне прадшкольнага аддзела і бібліятэкі. Атрымала ліміт, але, вядома ж, грошай ніякіх не далі. Дырэктарка школы Аліна Вежба звярнулася з просьбай у Гміную ўправу ў Кляшчэлях — радныя ліміту не далі, але прызначылі школе затое 10 мільёнаў, за якія ўдалося правесці ў два памяшканні цэнтральнае ацяпленне. На гэтым справа запынілася. Быў у кастрычніку ў сакоўскай школе куратар асветы і выхавання Пётр Літэрмус. Абяцаў памятаць пра Сакі...

Школы маюць перайсці з-пад патранату кураторый пад войтаў гмінаў. Ці так ім будзе лепш? А хто яго ведае. У Кляшчэлях, прыкладна, бюджэтная сітуацыя незайздросная. Сам войт гміны прызнаўся, што да агульнай сумы бюджэту (4 мільярды) забракне ў 1991 годзе паўтара мільярда злотых. І настаўнікі, і дырэктарка пачатковай школы ў Саках маюць надзею, што ў будучым нешта зменіцца, што грошы для школы знойдуцца. Зараз жа для школьніцтва прыйшоў бязлітасны час.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

**********************************************************************

# ЖЫЦЦЁВЫЯ ІНТАРЭСЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

**ВЫСТУПЛЕННЕ**
**Міністра Замежных Спраў Рэспублікі Беларусь П.К. Краўчанкі на 46 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН**

**Пан Старшыня,**

Дазвольце павіншаваць Вас, прадстаўніка краіны, якая ўносіць важкі ўклад у захаванне міру і пашырэнне міжнароднага супрацоўніцтва, у сувязі з выбраннем Старшыней 46-ай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН і запэўніць Вас у гатоўнасці нашай дэлегацыі аказваць актыўнае садзейнічанне Вашай дзейнасці на гэтай пачэснай і адказнай пасадзе.

Асаблівае задавальненне ў нашай дэлегацыі выклікае прыняцце ў члены Арганізацыі Латвіі, Літвы і Эстоніі, з якімі ў нас існуюць на працягу стагоддзяў традыцыйныя дружалюбныя сувязі. Мы спадзяёмся, што яны будуць мацнець і ўзбагачацца новым зместам.

Мы таксама віншуем Рэспубліку Карэя і Карэйскую Народна-Дэмакратычную Рэспубліку ў сувязі з прыняццем іх у члены нашай Арганізацыі і выказваем гатоўнасць да пашырэння супрацоўніцтва з гэтымі краінамі як на шматбаковай, так і на двухбаковай аснове.

Мы вітаем прыём у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый Маршалавых Астравоў і Федэратыўных Штатаў Мікранезіі.

**Паважаныя дэлегаты,**
**Паважаны пан Старшыня,**

У 1941 годзе выдатны беларускі паэт Максім Багдановіч, стагоддзе з дня нараджэння якога адзначаецца ў гэтым годзе пад эгідай ЮНЕСКО, пісаў:

*„Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,*
*А людзі нішчацца ў голадзе, у зморы*
*Ад беднаты, ад цемнаты,*
*Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы".*

Паэта хвалявала ізаляванасць чалавека, якая ўсё паглыблялася, адарванасць яго ад свету. Ён прагна імкнуўся да ўсталявання новага, больш справядлівага светапарадку, заснаванага на трывалых прынцыпах свабоды і павагі да чалавека.

Максіма Багдановіча нельга папракнуць у прыхільніцтве да ідэі якойсьці ўсяленскай дзяржавы без граніц. Ён быў адным з падзвіжнікаў ідэі абуджэння нацыянальнай самасвядомасці свайго народа, дзякуючы самаадданасці якіх і была створана наша сучасная дзяржава — Рэспубліка Беларусь.

Для разумення гістарычных лёсаў беларускага народа не абысціся без рэтраспекцыі, якая выхапіла б, высветліла б з цемры стагоддзяў, з палітага крывёю мінулага этапы нашага руху да свабоды, слаўныя і разам з тым трагічныя старонкі нацыянальнай гісторыі, дапамагала лепш зразумець і паспрабаваць убачыць нашу будучыню. Сёння мы з гордасцю адзначаем, што традыцыі беларускай дзяржаўнасці маюць шматвяковую гісторыю. Яна ўвасаблялася ў розных формах дзяржаўнай будовы і дасягнула найвышэйшага росквіту ў сярэднія стагоддзі. У беларусаў, на мове якіх ужо ў 1588 годзе быў створаны Статут — Кодэкс нарматыўна-прававых актаў і законаў, перадавых, я б нават сказаў класічных, для тагачаснай Еўропы, ніколі не праяўлялася пачуццё непрыязнасці ці варожасці да суседзяў, не праяўлялася імкненне распаліць дзе-небудзь і калі-небудзь полымя міжнацыянальных супярэчанняў і варожасці.

Традыцыі дзяржаўнасці ў нас зноў матэрыялізаваліся ў першай чвэрці XX стагоддзя, калі было абвешчана стварэнне беларускай дзяржавы. За параўнальна невялікі кавалак свайго самастойнага існавання яно было прызнана дэ-юрэ і дэ-факта шэрагам еўрапейскіх дзяржаў, з якімі ў яго пачалі развівацца двухбаковыя сувязі.

Разам з тым мы паграшылі б супраць ісціны, прадставіўшы гісторыю нашага этнасу як бязвоблачную чараду дасягненняў і поспехаў. Бадай, усё было наадварот. Цяжка знайсці ў Еўропе такі народ, які гэтак жа многа пакутаваў і гараваў, які гэтак жа часта падвяргаўся спусташальным набегам, нашэсцям і агрэсіям. За апошнія 600 гадоў мы, паводле далёка не самых дакладных

## КАМУНІКАТ
### аб пасяджэнні Міжнароднага камітэта беларусістаў

9 снежня 1991 г. адбылося пасяджэнне Міжнароднага камітэта беларусістаў, у якім прынялі ўдзел вучоныя і перакладчыкі з Аўстрыі, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны і Швейцарыі. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі вынікі дзейнасці ў 1991 г. і планы на 1992 г. У ліку добрых спраў беларусістаў — чынны ўдзел у міжнародных канферэнцыях у Любліне і Гародні, у арганізацыі Міжнароднай школы беларусістаў, стогадовым юбілеі Максіма Багдановіча ў Менску, арганізацыя навуковай канферэнцыі „Багдановіч і Літва" ў Вільнюсе. Пытанні беларускай філалогіі разглядаліся ў Зальцбургу (Аўстрыя). Сябрам асацыяцыі разасланы спісы кніг, якія можна будзе заказаць у 1992 г. Нямецкімі беларусістамі праведзены калоквіум беларускіх пісьменнікаў і рыхтуецца Тыдзень беларускай літаратуры ў Берліне. У Празе рыхтуецца да друку зборнік з прац чэшскіх славістаў у гонар Ф. Скарыны. Новыя пераклады паэзіі М. Багдановіча зроблены украінскімі і чувашскімі беларусістамі.

У планах на 1992 год — актыўны ўдзел у калоквіуме, прысвечаным 110 гадавінам Янкі Купалы і Якуба Коласа (ён будзе праведзены ў верасні ў Менску, як падсумаванне працы Міжнароднай школы беларусістаў), у канферэнцыях „Рым-III" (Камянец Падольскі) і „Гісторыя і рэлігія" (Гародня), арганізацыя канферэнцыі „Беларусы ў Пецярбургу" (Пецярбург, люты), чытанняў пра беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеянне, прысвечаных 100-годдзю З. Верас (Вільнюс, верасень) і інш. Мяркуецца распачаць выдавецкую серыю „Свет пра Беларусь".

Удзельнікі пасяджэння зацвердзілі рэдкалегію штогодніка „Беларусіка", заснавалі выдавецкую групу „Беларуская спадчына" (на чале з С. Жынкінай), прынялі арганізацыйныя рашэнні. Была выказана прапанова, каб адлічэнні ад сяброўскіх складак у МАБ пакуль што (да адкрыцця ўласных рахункаў) захоўваліся ў нацыянальных і рэгіянальных асацыяцыях і пярвічных суполках (у Беларусі).

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**26-04-1988 г.**

На пасяджэнні Кансультатыўнага Канвэнта. Хочуць, каб я быў кандыдатам у дэпутаты (radny) новай Ваяводскай Рады (прапанаваў Ян Барташэвіч). Не выпадала супрацівіцца, бо ж нехта павінен заступацца за беларускую меншасць перад уладамі. Цікава, чым гэта ўсё скончыцца? Праўдападобна, буду дапушчаны Выбарчай Калегіяй да фінальнага галасавання, хаця б таму, што фактычна толькі маю кандыдатуру Канвэнт прапануе (кандыдатуры Шаматовіча і Сэрчыка ўсяго падтрымлівае; яны ўжо кандыдатамі ад імя сваіх установаў).

Думаю, што не было прымерак наконт маёй асобы, і Барташэвіч начоўп ім трохі замяшання, гэты Pola-kobialorusin з прысакольскага Кундзіна.

Пасля пасяджэння доўга гаварыў са мною нейкі чалавек — К. Харытанюк? — усё расказваючы аб тым, як гэта добра было яму сярод беларусаў у ЗША (паўгода ў Кліўлендзе). Дзіўна даволі, бо ён як патомны беластаччанін не ўмее па-беларуску, і там не навучыўся, хоць пажываў у самога Сажыча, Старшыні Рады БНР... Барскага бачыў там; збіралі яму, на амерыканскі лад, долары ў падстаўлены капялюх, etc. Наіўнота эмігранцкая!

**27-04-1988 г.**

Закончыў шліфоўку апавяданняў „Выезд па справе" і „У адным, няскончаным асабняку", апубл. у „Ніве" некалькі гадоў назад. Трэба ж нешта важнае рабіць, калі не даецца найгалоўнае, новая кніжка. Надумаўся я даць іх у „Б.К. на '89", пакарыстаўшыся ўгаворам Барскага, каб нешта я даслаў Амельянюк, яго... жонцы? (...), якая ўзялася за гэтую справу пасля адпугнутага ім Гайдука (...).

Дакладна адчуў Барскага інтэлігентны Бутайла (ліст ад яго).

**29-04-1988 г.**

А. Мірановіч: сярод бацечкаў пашыраецца беларуская патрыятычнасць. Мой пераклад „Саборнага Пасланьня" чыталі ў Вялікдзень у цэрквах Магдаліны і ў Дайлідах ...

З Canadian Bielarus Society дасталі дакументы для маёй з Таняй паездкі ў Канаду (пад восень). Калі не дашлюць яшчэ і грошай — мінімум 700 долараў — не зможам, не будзе нам за што!

**30-04-1988 г.**

Палемічны эпізод з „Białoruś, Białoruś" у мадзярскага аўтара артыкула „Szabla czy szklanka?" („Polityka", 30.IV.). Пра постаць Батора.

„Вінаваты мы самі", — цалкам інтэлігентна бароніцца Л. Дранько-Майсюк у „ЛіМ"е ад 22-га. Яму прыдалася, і то зручна, мая формула „Багата пішам і мала думаем", выснаваная, зрэшты, з таго ягонага артыкула...

**01-05-1988 г.**

Уцякаючы ад лескатні першамайскага паходу, з Таняй зайшоў аж у Альмонты (у акупацыю забілі там палякі д-ра Чарнэцкага; нейкі хамут, не даўшы рады сцягнуць добрыя боты з ног трупа, паадрубаў іх сякераю!). Цудны дзень, сонца і амаль летняе цяпло. Увечары пайшоў дождж.

Лёнік зноў у Нью-Йорку. Цікава, ці павёз ён з сабою трохі нашых адгэтуль выдавецкіх навінкаў... „Archiŭny sšy-tak"?.

**05-05-1988 г.**

Забастоўкі ў Польшчы. Падобнае на тое, што будуць пашырацца... Гэта не 80-ты год, цяпер урад не вельмі мае што даць: эканоміка хілее, інфляцыя, беставар'е. Дэмакратызацыя можа прыпыніцца, бо ж надта ўжо дэкляруюць, што: не.

Мае палякі адчэпяцца, урэшце, ад „Беларусі, Беларусі"; схопяцца (цяпер) за куды важнейшую тэму, чымсьці цэлы гэты лямант польска-беларускі.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Шаматовіч — Мар'ян Шаматовіч, прафесар медыцыны, тадышні старшыня Ваяводскай Рады ў Беластоку;*

*— Сажыча — д-р Язэп Сажыч, кіраўнік Беларускай Дзяржавы на чужыне;*

*— БНР — Беларуская Народная Рэспубліка, утвораная ў сакавіку 1918 г.; знішчаная бальшавікамі і палякамі; пасля арганізавала Масква БССР;*

*— Бутайла — Рышард Бутайла, адзін з нямногалікіх заходнебеларускіх інтэлігентаў, што выратаваліся ад высылкі на „белыя мядзведзі";*

*— Л. Дранько-Майсюк — малады беларускі пісьменнік у Мінску, небанальнага складу думкі;*

*— Чарнэцкага — д-р Чарнэцкі (імя, на жаль, невядомае мне), даваенны беларускі дзеяч і вучоны, які ў акупацыю супрацоўнічаў з Беларускім Камітэтам у Беластоку; жыў у Альмонтах, дзе і быў забіты польскімі нацыяналістамі.*

***

падлікаў, страцілі ў пажарах войнаў не менш як 12 мільёнаў чалавек. Лёс распарадзіўся так, што наша геапалітычнае становішча — па сутнасці перакрыжаванне паміж Цэнтральнай і Усходняй Еўропай — трагічна адбівалася на лёсах беларусаў, з няўмольнай паслядоўнасцю кідаючы іх з малоха адной вайны ў другую. **„ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ" — паміж двума моцнымі суседзямі,** іменна так у гранічна абагульненай форме выказаў бы я сутнасць, квінтэсенцыю нашай многанацыянальнай гісторыі. Так было ў канцы XVIII стагоддзя, калі ў вядомых гістарычных умовах беларускія землі ўвайшлі ў састаў Расіі. Так было і ў 1918 годзе ў Брэсце, калі тэрыторыю Беларусі краілі, як хацелі, „забыўшы" спытацца ў народа, чаго ж хоча ён. Так было і ў 1921 годзе, калі падпісваўся трагічны для нас Рыжскі дагавор, які разарваў на дзве часткі амаль на 20 гадоў змучаную войнамі, сыходзячую крывёю Беларусь. Так было і ў студзені 1945 года ў Ялце, дзе бязлітасная рука Сталіна, цяжка апусціўшыся на карту, маніпуліравала лёсам соцен тысяч беларусаў. Мы не хочам больш быць ценем сваіх суседзяў, не хочам быць разменнай манетай у вялікай еўрапейскай гульні.

Усё гэта гаворыцца не для таго, каб павярнуць гісторыю назад або перапісаць яе. Мінулае застаецца ў мінулым. А сёння мы абсалютныўныя прыхільнікі духу Хельсінскага і Парыжскага пагадненняў, зыходзім з безагаворачнага прызнання прымата міжнароднага права.

Цяпер мая радзіма перажывае новы этап станаўлення і далейшага развіцця дзяржаўнасці. Вось чаму з пачуццём глыбокага хвалявання я інфармую „сусветны парламент", усё сусветнае згуртаванне аб тым, што 25 жніўня г.г. рашэннем вышэйшага заканадаўчага органа Рэспублікі быў нададзены канстытуцыйны статут Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Наш Вярхоўны Савет заявіў таксама аб палітычнай і эканамічнай незалежнасці Рэспублікі, а 19 верасня г.г. прыняў рашэнні аб перайменаванні дзяржавы — цяпер яна называецца Рэспубліка Беларусь, а таксама аб увядзенні новай дзяржаўнай сімволікі — бела-чырвона-белага сцяга і герба „Пагоня", за якімі стаіць многавяковая гісторыя.

Ужо зроблены першыя крокі на шляху развіцця суверэнітэту, якія праявіліся ў завяршэнні або пачатку перагаворных працэсаў з сумежнымі дзяржавамі — Расіяй, Украінай, Польшчай і Літвой, у імкненні будаваць двухбаковыя адносіны з суседнімі і з іншымі дзяржавамі на раўнапраўнай аснове.

Рэспубліка Беларусь разлічвае на падтрымку сваіх пачынанняў з боку сусветнага супольніцтва, спадзяецца на ўстанаўленне паўнацэнных міждзяржаўных адносін, развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах з зацікаўленымі дзяржавамі.

У гэтыя дні многія задаюць нам пытанне аб тым, чым будзе кіравацца Беларусь у сваёй знешняй палітыцы. Адказваючы на яго з гэтай высокай трыбуны, скажу: жыццёвыя інтарэсы беларускай нацыі — вось краевугольны камень нашага курсу ў міжнародных справах, узважанасць і рэалізм — складаемыя гэтага курсу.

У сілу гэтага знешнепалітычныя прынцыпы і прыярытэты Рэспублікі Беларусь могуць быць зведзены да наступных асноўных палажэнняў.

Першае. **Дасягненне рэальнай незалежнасці і суверэнітэту нашай дзяржавы.**

Нам трэба будзе стварыць спрыяльныя ўнутрыпалітычныя і знешнепалітычныя ўмовы, якія прывялі б да „паласы" дыпламатычных прызнанняў.

Разам з тым мы ўсведамляем тое, што суверэнітэт — не столькі абвешчаная, дэкларанавая, колькі зацверджаная і прызнаная якасць. Для Беларусі суверэнітэт не толькі мэта, але і няпросты і цярністы шлях, гістарычная дыстанцыя якога вялікая. Нельга ні ў якім разе запавольваць гэтыя працэсы — у такім разе мы проста апынёмся на абочыне агульна-еўрапейскага развіцця. Але нельга і паскараць іх, бо гэта можа прывесці да небяспечнага адрыву ад рэальнасці. Беларускі шлях да сапраўднага суверэнітэту, як мы спадзяёмся, будзе паслядоўным, спакойным, цывілі-заваным шляхам, адпавядаючым непарушным традыцыям нашай талерантнасці, павагі да народаў, што жывуць на тэрыторыі рэспублікі, будзе ўлічваць няўхільны рост нацыянальнай самасвядомасці нашага народа.

Для нас суверэнітэт і незалежнасць, выпакутаваныя многавяковай трагічнай гісторыяй, — гэта пажаданы ідэал і надзея на выжыванне ў экстрэмальнай чарнобыльскай сітуацыі, у якой мы аказаліся цяпер. Па сутнасці, мы ішлі да гэтага апошнія стагоддзі і толькі зараз, у канцы XX стагоддзя, рэальна набываем спрадвечна чалавечыя правы быць гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі.

Другое. **Узаемадзеянне ў стварэнні адзінай эканамічнай прасторы, новага Саюза суверэнных дзяржаў.**

Мы за захаванне, развіццё і наданне новай якасці традыцыйна існуючым эканамічным сувязям і на гэтай аснове — за ўдзел у працэсе стварэння Садружнасці суверэнных дзяржаў, якая прыходзіць на змену СССР. Стаўка на рэалізм, якую зрабіла Беларусь, падказвае, што разбурэнне таго, што склалася за дзесяцігоддзі, узвядзенне тарыфных бар'ераў прывялі б да рэзкага зніжэння жыццёвага ўзроўню, сталі б уронам не толькі для беларускага народа. Паводле наяўных даных, гэта азначала б для суверэнных рэспублік страты ў дзесяткі і сотні мільярдаў рублёў. Таму Рэспубліка Беларусь выступае за адзіную эканамічную, энергетычную і транспартную прастору на тэрыторыі ранейшага СССР, якая

**( Працяг на стар. 6 )**

 

# НА ПАРОЗЕ СТАЛАСЦІ

21 снежня 1991 года ў аўдыторыі Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку прайшоў чацвёрты з'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы. Прысутнасць на з'ездзе, як і ў мінулых гадах, утрымлівалася на ўзроўні 40-50 чалавек. Не паялічыў гэтага ўдзельніцтва нават той факт,



*Прэзідэнцкае пасланне.*

што быў гэта першы з'езд БАС у вольнай і дэмакратычнай Рэчыпаспалітай. Ніхто, аднак, не стаў з гэтай прычыны сумаваць. Студэнты, бадай, ужо зжыліся з думкай, што арганізаваныя БАСам імпрэзы прыцягваюць сотні, а то і тысячы ўдзельнікаў, але справу даводзіцца рабіць дзесяткам, ці ўсяго адзінкам.

Некалькі хвілін пасля 10-ай гадзіны ўсіх прыбыўшых на з'езд прывітаў прэзідэнт Беларускага аб'яднання студэнтаў Уладзімір Пац. Ён жа папрасіў весці з'езд Міколу Ваўранюка, які ў падобных справах мае неблагі досвед. Той пачаў наводзіць парадак...

З думкаю пра тых студэнтаў, для якіх чацверты з'езд быў першым, дазваляю сабе ў гэтым месцы прадставіць каротка гісторыю арганізацыі. Нарадзілася Аб'яднанне 11 чэрвеня 1981 года ў Варшаве, фармальна праіснавала да 29 ліпеня 1981 (афіцыйная адмова ўлад у рэгістрацыі), а фактычна ж — да 13 снежня 1981. Ідэя самастойнай беларускай студэнцкай арганізацыі нанава ўзнікла 26 сакавіка 1988 — стварыўся заснавальніцкі камітэт. Законная рэгістрацыя наступіла 29 лістапада 1988. 17 снежня 1988 прайшоў першы з'езд БАС. Чарговыя старшыні-прэзідэнты Аб'яднання: Ян Максімюк (1981), Яўген Вапа (1989 і 1990), Уладзімір Пац (1991).

Вядучы з'езд Мікола Ваўранюк назначыў тры асобы ў скрутацыйную камісію ды двух пратакалістаў: мяне і... сваю жонку Аліну. „Людзі з іх пісьменныя", — аргументаваў ён. Ніхто не стаў пярэчыць. Затым Мікола перадаў слова прэзідэнту мінулай кадэнцыі Уладзіміру Пацу. З увагі на ўзнёслы, як запісала ў сваім пратаколе Аліна Ваўранюк, стыль выказвання У. Паца прывяду тут абшырныя фрагменты прэзідэнцкага пасланне.

*Шаноўныя спадарыні, шаноўныя спадары! Сёння, гэта значыць 21 снежня 1991, кончыцца гадавая мая кадэнцыя як прэзідэнта БАС. Час на рэфлексію і ўспаміны. Час разлічыцца з таго, што зроблена, ды час намеціць новыя накірункі дзейнасці.*

*БАС як арганізацыя, якая ўзрасла на грунце дэмакратычных і незалежніцкіх імкненняў нашых папярэднікаў, мянялася з цягам часу. Метады дзейнасці, якія былі паспяховымі ў пачатку васьмідзесятых сёння адміраюць. Я быў тым прэзідэнтам, які мусіў выпрацаваць накірункі дзейнасці арганізацыі. Як мне гэта ўдалося, самі ацэніце, калі прыйдзе час на вотум даверу.*

*У дзейнасці БАС вылучаецца некалькі плыняў. Да аднае з іх залічу ўсе тыя формы нашай працы, праз якія выйшлі мы па-за наш студэнцкі асяродак у Польшчу, у свет, на прасцягі. Найбольшай імпрэзай гэткага тыпу было „Басовішча" ў Гарадку, якое прыцягнула каля трох тысяч чалавек. Паказаліся мы там, думаю, з самага лепшага боку. Някепска было таксама і на арганізаваным намі „Купаллі" ў Орлі, якое зграмадзіла каля тысячы чалавек. Гэтыя дзве імпрэзы сама менш даказваюць, што наш студэнцкі рух настолькі моцны, што ў стане ён наладжваць мерапрыемствы, якія робяць палякі, але мне хочацца сказаць болей — польскае студэнцкае асяроддзе не зрабіла дагэтуль на Беласточчыне ні адной імпрэзы такога маштабу, як нашы, а гэтым самым мы паказалі, хто сапраўдны гаспадар гэтай зямлі...*

У далейшай частцы свайго выступлення Уладзімір Пац расказаў дэталёва пра дзейнасць БАС у рэгіянальным, ці выключна студэнцкім аспектах: рэйд „Бацькаўшчына", паломніцтва на Грабарку, „Атрасіны", экскурсія ў Францыю. Закранаючы справу апошніх парламенцкіх выбараў у Польшчы, Уладзімір Пац сказаў, што ў прынцыпе палітычная акцыя не з'яўляецца формай дзейнасці БАС, але ў такія моманты, якія могуць аказацца вырашальнымі для беларускай меншасці, на арганізацыі маральны мус выказацца за нейкую з існуючых палітычных арыентацый. БАС, наводле У. Паца, павінна адыходзіць ад палітычных формаў на карысць, так сказаць, эканамічна-бізнесных. Гаворачы пра недахоны ў дзейнасці БАС у 1991 годзе, У. Пац звярнуў увагу на цалкавіты ўпадак выдавецкай працы. Гэтае пытанне ўздымалася пазней у дыскусіі.

Рэвізійная камісія БАС не сцвердзіла ў дзеяннях уступаючай Галоўнай рады Аб'яднання і прэзідэнта ніякіх супярэчлівасцяў са статутнымі запісамі — з'езд ухваліў вотум даверу. Затым Славамір Іванюк прадставіў праект зменаў у статуце Аб'яднання. Пералічваць усе тыя змены няма сэнсу. Скажу толькі, што касаваліся альбо папраўляліся тыя змены ў статуце, якія не спрацавалі — прыкладна, пункт пра складчыны як неабходны варунак удзельніцтва ў БАС, касаваўся мёртвы прэзідыум Галоўнай рады (ён, бадай, патрэбны толькі для рэгістрацыйнай улады ў 1988), сядзіба Галоўнай рады была пераведзена з Варшавы ў Беласток (справу памяшкання для БАС у Беластоку фіналізуе беластоцкі гурток арганізацыі).

Дыскусія на чацвертым з'ездзе была кароткай і сэнсоўнай. Удзельнікі выказаліся за тое, каб падтрымліваць тыя формы дзейнасці, якія здабылі



*Новая Галоўная рада БАС.*

✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳✳

# ЖЫЦЦЁВЫЯ ІНТАРЭСЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

**( Працяг са стар. 5 )**

функцыяніравала б на прынцыпах сучаснага рэгулюемага рынку.

Такога ж падыходу мы прытрымліваемся не толькі ў адносінах да ўзаемадзейнічання ў межах ранейшага Саюза, але і на глабальным узроўні. У гэтай сувязі Беларусь з зацікаўленасцю сочыць за ходам „уругвайскага раунда", які праводзіцца па лініі ГАТТ, які пашырае рамкі універсальнай міжнароднай гандлёвай сістэмы.

Трэцяе. **Мабілізацыя міжнароднай падтрымкі ў вырашэнні чарнобыльскай праблемы.**

Гэта праблема мае для нас лёсаноснае значэнне, бо Чарнобыль — вельмі цяжкая па сваіх выніках катастрофа XX веку стала нашай нацыянальнай бядой на стагоддзі. У гэтым свеце — усё мінаецца. Знікнем з яго і мы. Але бясконцай чарадой будуць змяняцца ўсё новыя і новыя пакаленні беларусаў, якія прадоўжаць цяжкі і пакутлівы пошук адказаў на складанейшыя пытанні, пастаўленыя ў лічаныя дні красавіка 1986 г. аварыяй на Чарнобыльскай АЭС.

Вось чаму чарнобыльская праблематыка — адзін з галоўных прыярытэтаў нашай знешняй палітыкі. Па сутнасці. Чарнобыль аказаўся каталізатарам руху да суверэнітэту. Наш народ заўсёды ў ліку першых прыходзіў на дапамогу і выручку іншым. Але ў самы цяжкі час чарнобыльскіх выпрабаванняў, якія выпалі на яго долю, у нас з'явілася пачуццё, што мы засталіся ў рамках краіны, раздзіраемай многімі супярэчнасцямі, сам-насам са сваёй нацыянальнай бядой.

Калі быць шчырым, то трэба прызнаць, што сацыяльна-эканамічная сістэма ў нашай краіне аказалася не гатовай адэкватна адрэагаваць на буйнейшую ядзерную аварыю стагоддзя, на гэты трагічны выклік гісторыі. Мяркуйце: за 5 гадоў, якія мінулі пасля аварыі, Беларусь атрымала з саюзнага фонду на мэты аховы здароўя рэспублікі ўсяго 5 млн. інвалютных рублёў пры яе штогадовай патрэбнасці 75 мільёнаў. У той жа час Мінатамэнерга СССР — галоўны віноўнік трагедыі — у 1990 годзе атрымаў ад сваіх экспартных паставак 650 млн. долараў.

Усё гэта вымушае нас перагледзець ранейшыя ацэнкі і падыходы, паставіць у аснову асноў праблему міжнароднага супрацоўніцтва.

Аднак размова тут аб дапамозе ў тым вузкім, традыцыйным, я сказаў бы, спрошчаным разуменні слова, як гэта было раней (прадуктамі харчавання, адзеннем і г.д.). Беларусі, Украіне і Расіі сёння патрэбны унікальнае абсталяванне, дзіцячыя анкалагічныя тамографы, перасовачныя дыягнастычныя ўстаноўкі, самыя сучасныя анкалагічныя прэпараты і самыя новыя методыкі лячэння многіх хвароб, якія ёсць у дзесяткаў краін.

Сумны вопыт Чарнобыля, як з'явы унікальнай, шматграннай, пла-нетарнай, можна абдумаць і пераадолець толькі калектыўным розумам чалавецтва, толькі пры дапамозе ўсеабдымнага сусветнага супрацоўніцтва. У гэтым сэнсе Чарнобыль прыняў трагічную эстафету ў Хірасімы і Нагасакі як канцэнтрацыю чалавечага смутку і болю.

Развіццё падзей паказала, што практычнае ажыццяўленне праграмы супрацоўніцтва пад эгідай ААН ідзе няпроста, натыкаецца на цяжкасці.

У гэтых умовах мы глыбока ўдзячныя краінам, якія заявілі аб сваім фінансавым удзеле ў міжнародных праграмах па змякчэнню вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў ходзе праведзенай 20 верасня канферэнцыі па аб'яўленню ўзносаў на гэту дзейнасць.

Мы шчыра ўдзячны Генеральнаму сакратару ААН пану Хав'еру дэ Куэльяру і Каардынатару дзейнасці сістэмы ААН па Чарнобылю пані Маргарэт Энсці, удыхнуўшым жыццё ў вядомую рэзалюцыю 45/190, зрабіўшым вельмі многа і для склікання Канферэнцыі дзяржаў-донараў, і для каардынацыі будучага міжнароднага супрацоўніцтва.

Нязменна цёплыя, сяброўскія адносіны пана Перэса дэ Куэльяра да Беларусі, яго візіт у нашу Рэспубліку выклікаюць у беларускага народа пачуццё глыбокай сімпатыі і павагі да яго, як да аднаго з самых аўтарытэтных палітычных дзеячаў сучаснасці.

Чацвёртае: **Ператварэнне Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву.**

Хачу падкрэсліць, што рэалізацыя гэтага прыярытэту прадыктавана карэннымі інтарэсамі нашага народа, асабліва ў постчарнобыльскую эпоху. У ходзе набліжэння да гэтай мэты, абвешчанай у Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, мы з гэтай высокай трыбуны ў кастрычніку 1990 года выступілі з ініцыятывай стварэння бяз'ядзернага пояса — ад Балтыйскага да Чорнага мора — у саставе Беларусі, трох дзяржаў Прыбалтыкі і Украіны.

Мінулы год, без сумнення, паказаў, што, выстаўляючы гэту ідэю, мы мелі рацыю, абапіраліся на дакладную адзнаку наспяваючых працэсаў. Больш таго, за мінулы год і асабліва за апошні месяц мы падышлі да абвешчаных намі мэт значна бліжэй, чым разлічвалі раней. Магутным каталізатарам як гэтых, так і другіх працэсаў, звязаных з паглыбленнем дэмакратыі, стала



 

прызнанне ў студэнцкім асяроддзі, у рэгіёне ды й па-за яго межамі. Арганізацыяй традыцыйных студэнцкіх мерапрыемстваў яшчэ да з'езда падзяліліся між сабою паасобныя гурткі Аб'яднання. Пра „Басовішча" як найвялікшую імпрэзу вырашыла Галоўная рада таксама яшчэ да з'езда. У справе выдавецкай дзейнасці, дзеля якой не аказалася ў 1991 годзе неабходных матэрыяльных сродкаў і людскога патэнцыялу, з'езд пастанавіў, каб ролю БАСаўскага інфарматара выконвала „Прысутнасць" у „Ніве". „Ніва" — выданне саліднае і з традыцыяй і рэгулярнасць тут гарантаваная, калі толькі знойдуцца людзі, якія будуць сачыць за „Прысутнасцю". З новых прапаноў варта адзначыць курс беларускай мовы, які мае быць арганізаваны БАСам у Філіі. Пачнецца, праўдападобна, 21 лютага.

Пасля некалькіх хвілін перапынку, адбыліся выбары новага лідэра Аб'яднання, Галоўнай рады і Рэвізійнай камісіі. На прэзідэнта кандыдавалі тры асобы: Юрка Сульжык (Варшаўскі універсітэт, III курс гісторыі), Барбара Кучынская (Медыцынская акадэмія ў Беластоку, V курс) і Пятро Нічыпарук (Філія Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, II курс юрыстыкі). Вынік тайнага галасавання паказаў, што барацьба за ўладу фактычна адбылася паміж двума першымі кандыдатамі. Перамагла Барбара Кучынская, 23:12. Уладзімір Пац перадаў ёй усю сваю уладу, гэта значыць пячаткі БАС. І так, упершыню ў гісторыі прэзідэнтам БАС стала жанчына.

Чацверты з'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў быў акуратна падрыхтаваны ды прайшоў у сяброўскай атмасферы, маўляў, тут сабраліся людзі адной ідэі. Ніхто з удзельнікаў не ставіў прапаноў, у здзяйсненне якіх не верыў. Студэнты прыйшлі на з'езд перш за ўсё дзеля таго, каб вырашыць, хто мае чым займацца ў дзевяноста другім годзе. Са статута арганізацыі выкарапілі яны ўсё, што дагэтуль было там фікцыяй. Пакінулі там, так сказаць, адну добрую волю і дэтэрмінацыю, бо на гэтых якраз чынніках грунтаваліся дзейнасць і кшталт Аб'яднання. Гэтак мае быць і надалей.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**


*Урачыстая перадача ўлады.*




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 54 —

У справе выбараў у Віленскі Сейм трэба заўважыць, што ў апошні дзень перад галасаваннем сярод беларусаў выступілі пэўныя ваганні. Пад уплывам некаторых беларускіх дзеячоў і пад націскам польскіх левых партый напярэдадні галасавання частка беларусаў пастанавіла прыняць у ім удзел. Кароткі час не дазволіў ужо прыцягнуць да выбараў большую масу беларусаў — аднак, выбары даказалі, што пэўная частка беларусаў аддала свае галасы на спісак „Адраджэння".

Можна думаць, што калі б не палкая барацьба паміж Беларускім народным камітэтам і Алексюком і вельмі малая папулярнасць апошняга, ды калі б дзеянні польскіх груповак у прыцягненні беларусаў да выбарчых скрынак былі больш планавыя і скаардынаваныя, дык працэнт галасуючых быў бы намнога большы і тым самым уплыў Ластоўскага на віленскія выбары стаўся б нязначны.

Пятага лютага большасць арыштаваных была вывезена віленскімі ўладамі ў нейтральную зону і там звольнена без права вяртання на Віленшчыну.

Вобыскі, арышты і вывазкі выклікалі сярод беларусаў замяшанне і новую хвалю горычы.

Дзейнасць Беларускага нацыянальнага камітэта зноў была накіравана на шлях пратэстаў. Доказам можа быць пратэст ад 13 лютага 1922 года.

„У днях 19—20 студзеня 1922 года польскія ўлады з Цэнтральнай Літвы правялі вобыск у радзе культурных беларускіх устаноў, арыштавалі каля 20 беларускіх дзеячоў і культурных супрацоўнікаў са старшынёй Камітэта на чале.

Ноччу з 4 на 5 лютага б.г. амаль усе яны, у большасці без следства, без ніякага суда на тэму прыпісаных ім злачынстваў, тайна былі вывезены з Айчыны, асуджаны невядома кім на выгнанне з краю і пазбаўлены магчымасці ўсякай абароны і магчымасці даказаць сваю нявіннасць.

Беларускі нацыянальны камітэт катэгарычна пратэстуе супраць такога грубага парушэння элементарных прынцыпаў закона і справядлівасці і супраць яўнага гвалту над грамадзянскай свабодай выселеных беларусаў.

Беларускі нацыянальны камітэт шчыра дзякуе тым прадстаўнікам краёвай польскай дэмакратыі, якія ўжо запрэтэставалі супраць патаптання ўрадам Цэнтральнай Літвы закона ды нацыянальнай і грамадзянскай свабоды, разумеючы, што кожны замах улады на правы адной з нацыянальнасцей у аднолькавай ступені з'яўляецца пагрозай усім братнім дэмакратыям у краіне.

Беларускі нацыянальны камітэт вітае таксама выступленне прадстаўнікоў яўрэйскай дэмакратыі ў асобах старшыні яўрэйскай гміны горада Вільні доктара Выгодскага і Саюза журналістаў і пісьменнікаў, якія аб'явілі свае гарачыя пратэсты процў гвалтаў над беларускімі дзеячамі і перасылае ім гарачае „дзякуй" ад імя свайго і ад імя праследаваных.

Беларускі нацыянальны камітэт шле прывітанні ўсім вывезеным беларускім і літоўскім дзеячам, свята верачы, што раней ці пазней праўда пераможа і што ў хуткім часе будуць яны ў стане вярнуцца ў айчынны край і прыступіць да прадукцыйнай дзейнасці, ад якой яны сёння адарваны". (Пераклад з польскай мовы — А.Б.).

Трэба звярнуць увагу на тое, што тон гэтага пратэсту быў іншы, чым тон ранейшых выступленняў Камітэта. Перад усім быў ён скіраваны да польскага ўрада і падкрэсліваў прыхільныя адносіны да беларусаў з боку пэўнай часткі польскага грамадства і прэсы.

*(Працяг будзе)*

✱✱✱

паражэнне жнівеньскага путчу ў Маскве.

Робячы наступны крок наперад, мы прапануем сёння правесці прадметныя кансультацыі з усімі зацікаўленымі бакамі аб неабходных мерах па рэальнаму стварэнню такой зоны, а таксама аб працэдурах, метадах і кроках па яе афармленню, уключаючы міжнародна-прававое.

Праўда заключаецца ў тым, што беларускі народ стаміўся быць заложнікам чыіхсьці ваенных рашэнняў. Вельмі часта і вельмі бязлітасна вытоптваліся ў мінулым ваеннымі ботамі яго дабрабыт, культура і будучыня. Сёння мы ўдвайне не хацелі б быць заложнікамі чужых ядзерных рашэнняў. Лёс ядзернага патэнцыялу на тэрыторыі Беларусі, яго выкарыстанне, дыслакацыя або перадыслакацыя, кантроль над ім — могуць і павінны вырашацца толькі з прамым удзелам Беларусі, а не за яе спінай. У той жа час мы адназначна заяўляем, што кантроль за ядзернай зброяй, аператыўнае кіраванне ёй павінны, безумоўна, належаць адзінаму цэнтру. Беларусь будзе садзейнічаць хутчэйшай ратыфікацыі пагадненняў СССР — ЗША па скарачэнню ядзерных арсеналаў.

Разумеючы ўсю складанасць і далікатнасць узнімаемай ваенна-палітычнай праблематыкі, залежнасць яе вырашэння ад агульнаеўрапейскіх рэалій і пазіцый іншых краін. Беларусь лічыць неабходным мець адпаведныя каналы для правядзення ў гэтых мэтах патрабуемай міжнароднай работы. Іменна гэтыя меркаванні прымусілі нас у пачатку бягучага года звярнуцца да Канферэнцыі па раззбраенню, якая працуе на пастаяннай аснове ў Жэневе, з просьбай аб членстве.

Пятае: **Уключэнне Беларусі ў агульнаеўрапейскі працэс.**

Цяпер мы падвяргаем новаму аналізу і праблему ўцягвання Беларусі ў хельсінкскі працэс. Калі Беларусь, тым больш у яе цяжкім постчарнобыльскім становішчы, становіцца месцам дыслакацыі значнай часткі войск і ўзбраенняў, якія выводзяцца з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, ці не павінны мы мець слова ў ваенных рашэннях, што прымаюцца ў ходзе гэтага працэсу? Калі правы чалавека і практыка іх ажыццяўлення на нашай тэрыторыі вызначаюцца з гэтага часу законамі Беларусі, а не іншымі актамі, ці не павінны мы ўдзельнічаць у фарміраванні зместу гуманітарнай карзіны Хельсінкі? Калі эканамічныя рэаліі існавання многамільённага народа, уключаючы рэгуляванне знешняга гандлю, вызначаюцца цяпер рашэннямі, прымаемымі ў Мінску, то ці не павінна сталіца Беларусі напрамую ўдзельнічаць у фарміраванні агульнай эканамічнай прасторы ў Еўропе?

Мы не бачым сур'ёзных перашкод для таго, каб удзельнікі хельсінскага працэсу прызналі новыя рэаліі і зыходзілі з раўнапраўнага ўдзелу Беларусі ў іх важных намаганнях, якія ў многім вызначаюць будучыню кантынента. Падыходзячым момантам для гэтага магла б стаць сустрэча на ўзроўні міністраў замежных спраў краін — членаў СБСЕ, намечаная на студзень 1992 года ў Празе.

Час, які мы перажываем, выстаўляе мноства нетрадыцыйных пытанняў. І ўсе мы павінны нямала падумаць і папрацаваць, каб адказы на іх забяспечылі нашым народам шукаемую стабільнасць. Стабільнасць сапраўдную, а не ўяўную, доўгатэрміновую, а не часовую, справядлівую, а не заснаваную на дыскрымінацыі. Кожны чалавек, знаёмы з гісторыяй, пацвердзіць, што дыскрымінацыя і стабільнасць — гэта палітычныя антонімы.

Шостае. **Стварэнне ўмоў для фарміравання рынкавых структур у Беларусі, яе эканамічнага ўздыму.**

Мы разглядаем няроўныя ўзроўні эканамічнага развіцця як асноўны дэстабілізуючы фактар у Еўропе, а таксама на глабальным узроўні. Сёння гэта нясе ў сабе патэнцыі новых катаклізмаў.

Той водападзел, які мы раней называлі ідэалагічным проці-стаяннем, аказаўся цалкам пераадольным. Але на змену яму прыйшлі новыя супярэчнасці, якія вынікаюць з далёка не аднолькавых узроўняў эканамічнага развіцця, няроўных умоў старту і „ўрастання" ў рынак. Можна, безумоўна, не заўважаць іх. Яны пакуль не такія вострыя, як тыя эканамічныя праблемы, якія праяўляюцца на вертыкалі „Поўнач — Поўдзень". Але я перакананы, што калі не зараз, то праз некалькі гадоў яны ўладна напомняць аб сабе. Адна толькі эканамічная міграцыя можа ператварыцца ў сур'ёзную праблему для ўсіх еўрапейцаў. Безумоўна, у якасці проціяддзя можна выкарыстаць абарончыя функцыі дзяржавы, зрабіць больш жорсткім візавы рэжым, будаўніцтва лагераў для бежанцаў. Аднак усе гэтыя меры адміністрацыйнага характару, якія, з другога боку, можна, дарэчы, назваць „жалезнай заслонкай, асуджаныя, як паказвае гісторыя, на правал.

Шляхі выхаду з многіх бед, якія падсцерагаюць народы, што набываюць доўгачаканую свабоду, трэба шукаць у рынкавай будове эканомікі. Беларусь свядома ідзе на яе фарміраванне, ажыццявіўшы ў апошні час цэлы рад кардынальных пераўтварэнняў. Асноўную ўвагу мы ўдзяляем цяпер стварэнню прававой, сацыяльна-эканамічнай інфраструктуры рынку. Прыняты або ў бліжэйшы час стануць рэальнасцю дзесяткі законаў, якія закладваюць базу прадпрымальніцкай дзейнасці.

Нашы сур'ёзныя, фундаментальныя адносіны да рынку звязаны з тым, што мы разглядаем яго як сродак акумуліравання матэрыяльных рэсурсаў для вырашэння многіх праблем, выкліканых Чарнобылем. Разам з тым неабходнасць сканцэнтравання ўжо цяпер велізарных рэсурсаў на гэтым

**( Працяг на стар. 8 )**

## НА ЎСЮ ДОЎГУЮ ДРУГУЮ ПАЛОВУ ЖЫЦЦЯ.

# ВІРЫ І ВІРЫКІ

Нядаўна надрукаваная кніжка ўспамінаў Георгія Валкавыцкага „Віры" мае капітальнае для нас значэнне. Ён, будучы галоўным рэдактарам „Нівы" ад самага пачатку, як і членам вярхоўнага кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства на працягу шэрагу перыядаў дзейнасці, быў стала ў тыя часы адзіным высокаінтэлегентным сведкаю падзеяў у нашым цэнтры, звязаных з нацыянальным і культурным жыццём беларускай меншыні. „Віры" чытаюцца, бы своеасаблівая энцыклапедыя, напісаная самотным чалавекам, натуральна, і вельмі няпоўнаю. Але даў Валкавыцкі падставу тым, хто задумае напісаць гісторыю беларусаў у пасляваеннай Польшчы; папахі спецыфічнага клімату, яго шмат у чым паправяць, вядома, — недаступныя пакуль што матэрыялы з архіваў дзяржаўнае адміністрацыі і тайнай паліцыі, прыватных збораў, ці, звычайна, дакладныя аналізы гадавікоў тае ж „Нівы" ды іншых публікацыяў.

Чытаючы „Віры", палічыў я патрэбным дапоўніць некаторымі фактамі, пра якія Г. Валкавыцкі мог не ведаць або меў права патрактаваць іх дробязнымі. Праўда, ірытуюць русізмы з паланізмамі, якіх густавата, ўсё-ткі, у кніжцы рэдактара беларускай „Нівы", але яны не так важныя, хоць, бывае, незразумелыя і мне, даволі начытанаму па рускай літаратуры (напрыклад, нечуванае *„нехлямяжы"*).

Славуты Шэршань, вярнуўшыся з „белых мядзведзяў", зайшоў у рэдакцыю „Нівы" на кароткі міг, каб назаўсёды зніклуць з вачэй. Маючы за сабою савецкія лагеры, ён чамусьці дапусціў элементарную памылку, паказаўшыся ў нас. Памятаю сенсацыю ад ягонага з'яўлення, і тое, як закруціліся афіцэры Службы Бяспекі, ужо добра вядомыя ў асяроддзі сваімі частымі візітамі. Валкавыцкі недаацэньвае іхнай ролі ў фармаванні атмасферы ў калектыве. У тым іхным апякунстве трэба шукаць няяснага на першы погляд рэагавання ў журналістаў, а мела іх „Ніва" нямала (прыходзілі і адыходзілі). Пад пільным наглядам сакрэтных *„стукачоў"* знаходзіўся і сам Валкавыцкі. Ён гэта адчуваў, што і мусіла паўплываць на ягоную, не толькі характаралагічную, стрыманасць уласнае актыўнасці, як бы сухасць... Стаўка не была нізкая: або будзеш есці хлеб з пасады, якую любіш, або турнуць цябе з *„воўчым білетам"* на дарогу.

Хто распрацаваў ідэю пераліквідавання „Нівы" на польскамоўны часопіс? Уладзімір Паўлючук! Адыйшоўшы ў эпоху Герка ў свет навукі, стаў ён сааўтарам славутае праграмы для рэгіёну, папулярна званай: **białostockie przyśpieszenie.** У грунтоўных раней доследах дайшоў Паўлючук да высновы, што **беларуская нацыянальная меншасць страціць сваю тэрыторыю разам з прапажаю вёсак і па-міграцнку распыліцца ў гарадах**, дзе зжарэ яе польскі натоўп (нават у Гайнаўцы ці ў Кляшчэлях, Белавежы). Прароцтвы таго хлопца з Рыбалаў, на жаль, спраўджаюцца цяпер. Прадбачыў, таксама, паланізацыю царквы ў выніку росту т.зв. праваслаўных палякаў, што закончыцца масавай каталізацыяй наступных пакаленняў (польская патрыятычнасць па сваёй нарматыўнай прыродзе немагчымая па-за арбітаю Ватыкана, як праваслаўе тут — без духу Русі). Перарабіць „Ніву" у выданне для папулярызацыі беларускай культуры сярод палякаў было лагічным завяршэннем Паўлючуковае тэзы аб нашай бесперспектыўнасці.

Не дагаварыў Валкавыцкі істотнага і пра інцыдэнт з нашумеўшай публікацыяй п.з. „Газёры". Дастаў бы за яе і ён і я — у хвост ды і ў грыву! — калі б не шчаслівы для нас збег акалічнасцяў. Акурат назначылі новага шэфа бельскіх камуністаў, — Уладзіміра Міхалюка. Яму, як свежаспечанаму начальніку, патрэбна была, экстранная **ўдача**, каб мацаваць аўтарытэт. Ён і ўзяўся за тых газёраў у Рашарні, не знаходзячы лепшай афёры пад рукою. Але, як памятаю, пахваліўся Міхалюк разгромам тае хэўры не на старонках „Нівы", а „Беластоцкай газеты", якая ахвоча спіла смятану за нас, пакінуўшы сыроватку... Хто ваяваў, а хто ано грудзі пад ордэн падстаўляў.

Неўзабаве напісаў я артыкул пра злоўжыванні беластоцкіх адвакатаў (займеў сярод іх саліднага інфарматара, маючага доступ да сакрэтных там справаў і дакументаў). Вэрхал з „Газёрамі", аднак, яшчэ не навучыў Валкавыцкага заячай асекурацыі; тэкст з вопісам адвакацкіх жульніцтваў спакойна пусціў у друк ды, здаецца, цэнзар перахапіў, падшколены камітэтчыкамі, упалоханымі тым смуродам у Бельску на ўсю Польшчу... Павалаклі мяне, маралізатарскага фундаменталіста, і Валкавыцкага на т.зв. кансультацыю ў нежартоўны Ваяводскі Камітэт партыі. Гутарка адбылася існа гогалеўская. — Таварышы, зло трэба бязлітасна выяўляць, што зусім не значыць, каб зараз распісвацца аб ім у газеце, сеяць неспакой у грамадстве, кампраметаваць адвакатуру, ў якой працуюць і камуністы... Таварышы, партыя — гэта партыя, і да яе перш вам ісці з набалелым, а потым ужо, эвентуальна, пісаць усенародна... Калі партыйныя так вырашаць. Таварышы, вы ж трансмісія партыі, а партыя — гэта працоўны народ. Адкуль вам можа быць вядома, што народ якраз і хоча гэткай публікацыі? Таварышы, народа ніколі мала слухаць і слухаць...

Вось так, прыблізна, не менш і не больш. Для прыліку схадзіў я і да *„голасу народа"*, сакратара партыйнай арганізацыі адвакатуры, нейкага Балінскага. Асоба з яго ветлівая, ажно дыхала ад яе культурнасцю. Я сказаў свой апошні з апошніх аргумент: — Журналіст есць хлеб з публікацый, а не з вышукоўвання матэрыялу да іх, не пакарыстаўшыся імі... Тав. Балінскі зразумеў у паўслове і запрапанаваў ... гатовую халтурку дзеля выраўнання аўтарскай крыўды.

Зрабілася душна. Неяк дурна. Бяссэнсава. Не аднаму мне ў той апагей гамулкаўскай *„малой стабілізацыі"; нядоўгага, але затое гарантаванага, кавалка хлеба. І літаральна ў рэшткавых яе месяцы жандар нашых сумленняў Мікалай Кірылюк уласнаручна выгнаў мяне, паскуду, з „перадавога атрада рабочага класа"*, а рукамі бездыскусійна залежнага ад яго Валкавыцкага — і з „Нівы". У той жа дзень: раніцай — вон з партыі, а ў абед — прэч з рэдакцыі.

*„Справу Яновіча" — ад 1969 г. вяду дзённік — я публікаваў з дэталямі; не варта паўтарацца. Валкавыцкаму яна ўсяго прыкры эпізод, а для мяне — удар з накаўтам на ўсю доўгую другую палову жыцця.*

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

***

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ІНТАРЭСЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

**( Працяг са стар. 7 )**

напрамку аб'ектыўна ўскладняе ажыццяўляемы пераход да іншага тыпу эканамічных адносін.

Новыя палітычныя і эканамічныя рэаліі, у якіх аказалася рэспубліка, ускладняюцца чарнобыльскім фактарам, прымушаюць нас па-новаму ацаніць ступень адэкватнасці сучаснага ўзносу Беларусі ў міжнародныя арганізацыі яе эканамічнаму палажэнню. Праблема гэта носіць складаны метадалагічны і палітычны характар, але для нас яна актуальная, і мы падрыхтаваны да кансультацый і цеснага супрацоўніцтва з адпаведнымі арганізацыямі для выяўлення магчымых падыходаў да яе вырашэння.

Сёмае: **Забеспячэнне экалагічнай бяспекі.**

Без яе немагчымы далейшы прагрэс і выжыванне чалавецтва ў пачатку трэцяга тысячагоддзя.

У гэтым кантэксце прынцыповае значэнне мае падрыхтоўка Канферэнцыі па навакольнаму асяроддзю і развіццю 1992 г., якая склікаецца ў Бразіліі на вышэйшым узроўні. Важна дабіцца, каб гэта канферэнцыя стала рубежным этапам ва ўсведамленні чалавецтвам усёй глыбіні экалагічнай небяспекі і ва ўзгадненні агульных падыходаў да стратэгіі прыродаахоўнага супрацоўніцтва дзяржаў на бліжэйшае дзесяцігоддзе.

Як бяспрэчны поспех у руху да новага разумення гэтых праблем неабходна расцаніць рашэнне аб стварэнні ў пачатку 1992 г. на эксперыментальнай аснове Цэнтра неадкладнай экалагічнай дапамогі ААН.

Мы перакананы, што настаў час — асабліва з улікам горкіх урокаў Чарнобыля — падумаць над стварэннем у сістэме ААН аўтаматычна запускаемага механізма буйнамаштабнай гуманітарнай дапамогі ў выпадку бедстваў надзвычай маштабнага характару.

Восьмае. **Забеспячэнне свабоднага ўзаемадзеяння культур.**

Тут мы зыходзім з універсальнай каштоўнасці культуры, яе вялікай гуманістычнай функцыі. Паводле нашага перакапання, культура заклікана адыгрываць найвялікшую ролю ў збліжэнні, інтэграцыі, росце ўзаемаразумення паміж дзяржавамі і людзьмі.

Зыходзячы з гэтага, мы будзем прымаць больш актыўны ўдзел у фарміраванні культурнага базісу і спадчыны Еўропы і свету, перабудоўваць нашы ўзаемаадносіны з суседзямі на аснове непераходзячых культурных акаштоўнасцей і ідэалаў, агульных традыцый духоўнага жыцця. Культура па сваёй сітуацыі нацыянальная, але ў той жа час яна не ведае межаў. У прыватнасці, вітражы храмаў Рэймса, Прагі, Кракава, сабораў беларускага горада Гродна блізкія па сутнасці, духу, мастацкай форме. І ў гэтым прыкладзе вялікая прыцягальная сіла культуры, яе нязменная інтэгрыруючая роля і гістарычная місія. Беларуская культура заўсёды развівалася ў лоне лепшых гуманітарных традыцый Еўропы, ствараючы спрыяльную глебу для праяўлення розных форм чалавечага генія. Мы з задавальненнем адзначаем, што звязаныя з Беларуссю сваімі родавымі каранямі пісьменнік Ф. Дастаеўскі, кампазітары І. Стравінскі і Д. Шастаковіч, мастак М. Шагал, паэт Г. Апалінэр унеслі прыкметны ўклад у духоўную скарбніцу іншых народаў і агульную сусветную культуру сваёй філасофскай глыбінёй, наватарствам, самабытнасцю і непаўторнасцю, рафінаванасцю эстэтычных прынцыпаў. Захоўваючы і прымнажаючы нашы спрадвечныя традыцыі талерантнасці, мы маем намер і ў далейшым ствараць умовы для свабоднага перамяшчэння людзей, абмену ідэямі і культурнымі каштоўнасцямі.

**Пан Старшыня,**

Наша вялікая зацікаўленасць у дзейнасці ўстаноў і органаў сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый тлумачыцца ў многім тым, што доўгія гады ААН была для Беларусі, бадай што, адзіным акном у сусвет. Аднак і ў новых умовах, калі ў рэспубліцы пачынаюць завязвацца і пашырацца двухбаковыя сувязі, значэнне ААН не стане для нас часовым. Таму мы з асаблівай увагай адносімся да далейшага гістарычнага лёсу гэтай арганізацыі і гатовы разам з усімі працягваць работу над умацаваннем яе аўтарытэту.

Зараз усе адзначаюць рэнесанс ААН і, адпаведна, ідзе і працэс адраджэння цікавасці да ААН з боку дзяржаў, у тым ліку буйных, у якіх часамі пераважыў пункт погляду аб маргінальнасці ААН. З'яўляючыся невялікай дзяржавай, мы вітаем гэты працэс. Пры гэтым неабходна адзначыць, што ён з'яўляецца адлюстраваннем жыццёвай праўды: калі на крутых паваротах гісторыі ўзмацняецца цікавасць да ААН, значыць, яна неабходна як інструмент узаемадзеяння і ўзаематворчасці дзяржаў.

Разам з гэтым неабходна прызнаць, што свет радыкальна памяняўся. Таму і інструменты, якімі карыстаецца свет, таксама павінны мадэрнізавацца. Неабходныя змены ААН цалкам можна здзейсніць, не парушаючы закладзеных у 1945 годзе асноў, на базе новага, адпавядаючага новым рэаліям, зместу існуючага Статута Арганізацыі.

Напэўна — і мы прапаноўваем гэта, — ужо на дадзенай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН магчыма было б пачаць працэс кансультацый, прадметам якіх былі б не толькі механізмы самой Генеральнай Асамблеі, але і ў больш шырокім плане новая роля ААН у цэлым.

У прыватнасці, неабходна фарміраванне кансэнсуса на новай ролі ААН у падтрымцы міру. І ў гэтым асабліва, выходзячае за рамкі ўрэгулявання канкрэтнага канфлікту значэнне таго, што адбываецца зараз у раёне Персідскага заліва. Па сутнасці, ідзе станаўленне новага разумення форм і метадаў дзейнасці ААН, адэкватных перыяду, які пачынаецца і павінен азначыцца прыматам агульначалавечых цікавасцей над вузкаэгаістычнымі імкненнямі.

**Пан Старшыня!**

Рэнесанс ААН — з'ява не выпадковая і не эгаістычная. Ён быў падрыхтаваны ўсім ходам развіцця чалавецтва ў апошнія дзесяцігоддзі. Арганізацыя, ідэя і сэнс якой апярэджвалі час, зараз стала ўпоравень з эпохай.

Нацыянальна-дзяржаўны рэнесанс Беларусі, перажываемы ёю зараз, — таксама не выпадковасць і не эпізод. Гэта час увасаблення на практыцы шматвекавых спадзяванняў народа Беларусі, чацвёртага па колькасці сярод славянскіх народаў.

У старажытнасці Беларусь знаходзілася на шляху „з вараг у грэкі". А сёння мы адчуваем сябе часткай сусветнага супольніцтва нацый. І адраджэнне Беларусі — гэта наш своеасаблівы ўклад у адраджэнне сусветнай сям'і народаў. Сям'я па-сапраўднаму моцная і працвітае тады, калі надыходзіць час росквіту для ўсіх яе членаў.

Няхай будзе благаслаўлёны лёс маёй роднай Беларусі!

Дзякую Вам, пан Старшыня.

*Нью-Йорк, 26 верасня 1991 г.*

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Данута Бічэль

## ЁЛАЧКА

Як распалены пажар,
так гарыць у школе ёлка,
ёлка — вострая іголка,
срэбны дождж, агністы шар.

Вось ідуць да нас пяшком —
іх завея не стаміла —
дзед сівы з унучкай мілай
з поўным радасці мяшком.

Сёння ў ёлачкі ў гасцях
карагод вясёлых масак.
Ды ярчэй дзівосных казак
бел-чырвона-белы сцяг.

Паўглядаўшыся ўгару,
задуменна кажа тата:
„Нібы ёлачку на свята,
адбудуем Беларусь".





*Зноў зіма паслала снежныя кілімы...* **Фота У. Завадскага.**

Паўлюк Трус

## ПАДАЮЦЬ СНЯЖЫНКІ

*(Урывак з паэмы „Дзесяты падмурак")*

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном...

Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.

Дзесьці у прасторах
празвінелі бомы.
Дацвілі пялёсткі
нейчае тугі...

І здаецца зноўку —
еду я дадому
Пераведаць родных,
блізкіх, дарагіх.

Ахінае вечар
тонкія мярэжы,
На акне альвасы
дагарэлі ў сне,

А ў душы квяцістасць,
і такая свежасць,
І з вачэй усмешкі
сыплюцца на снег.

Зноў зіма паслала
снежныя кілімы,
Зажурыла беллю
паплавы, лугі,

І прыходзіць радасць
у красе маўклівай.
Адплываюць хвілі
смутку і тугі...

А сняжынкі сеюць
кволую імглівасць,
Падаюць бялюткі
за маім акном,

І цвіце на вішнях
снежная ўрачыстасць,
Сцелецца на скронях
перад раннім сном.

Хочацца навеяць
казкі-таямніцы
Гукамі мелодый,
радасцю без слоў.

І застылі сцені
у маёй святліцы,
Засынаю... Сніцца
роднае сяло.



Васіль Вітка

## СЯБРОЎКІ

Хто там гукае ў акно?
Гэта вы, сінічкі?
Я прачнулася даўно,
Запляла касічкі.

Вось надзену кажушок,
Выбегу на ганак,
З лесвіцы змяту сняжок,
Вынесу сняданак.

Тут халва і тваражок,
Скрылічак каўбаскі,
Цёплы з мясам піражок —
Ешце, калі ласка.

У абед, сінічкі, зноў
Прылятайце смела.
Ну а мне пара дамоў,
Я ж сама не ела.

**********************************************************************

ЯКАБ І ВІЛЬГЕЛЬМ ГРЫМ

## КАРОЛЬ-ЖАБА АЛЬБО ЖАЛЕЗНЫ ГЕНРЫХ



Даўным-даўно, калі ўсе жаданні спаўняліся, жыў на свеце кароль. Меў ён дачок-прыгажунуў. Толькі з малодшай дачкою ніхто ў характве не мог параўнацца. Нават сонца, бывала, зазірне ёй у твар дый здзівіцца. А яно ж шмат на сваім вяку ўсяго пабачыла...

Недалёка ад каралеўскага замка стаяў вялікі цёмны лес. У лесе пад старой ліпай бруілася крынічка. У спякотыя дні прынцэса выпраўлялася ў лес і сядала ля халоднай крынічкі. Калі рабілася сумна, яна брала ў рукі залаты шарык, падкідала яго і лавіла — гэта была ўлюбёная прынцэсіна гульня.

Аднойчы здарылася так, што залаты шарык не папаў у працягнутую прынцэсай ручку, а стукнуўся аб зямлю побач з ёю і пакаціўся прама ў ваду. Прынцэса праводзіла шарык вачыма, пакуль ён не знік у вадзе. А крыніца гэта была такая глыбачэзная, што і дна не пабачыш. Расплакалася прынцэса, ды так, што і супакоіцца не можа.

Жалілася яна сама сабе, жалілася, ды раптам чуе, як нехта кажа:

— Што здарылася, прынцэса? Ты плачаш так, што і каменнае сэрца сціснецца ад жалю.

Павярнулася яна на голас і ўбачыла жабу, якая высунула з вады сваю тоўстую брыдкую галаву.

— А, гэта ты, старое вадзяное плюхала,— сказала яна. — Я плачу па сваім залатым шарыку, ён упаў у крыніцу.

— Супакойся, не плач, — адказала жаба. — Я магу дапамагчы. Але чым ты аддзячыш мне, калі я дастану цацку?

— Бяры, што хочаш, мілая жабка, — адказала прынцэса, — маё ўбранне, мае пэрлы і вось гэтыя каштоўныя камяні, маю залатую карону, што ў мяне на галаве.

А жаба ў адказ:

— Твае ўбранне, пэрлы і каштоўныя камяні, твая залатая карона мне не патрэбныя. Але калі ты паабяцаеш, што палюбіш мяне і я стану тваім сябрам, буду сядзець з табой за адным столікам, есці з твайго залатога сподачка, піць з твайго кубачка і спаць у тваім ложачку, то я пырну і дастану для цябе залаты шарык.

— Так, так, — мовіла прынцэса,— я абяцаю табе ўсё, што ты хочаш, толькі прынясі мне залаты шарык.

А сама падумала:

— Абы-што балбоча дурная жабоцька. Няхай сядзіць з такімі, як сама, у балоце, ды квакае. Не можа яна быць сябрам чалавека.

А жаба, атрымаўшы абяцанне, нурнула ў ваду і апусцілася на дно. Праз хвіліну яна выплыла, трымаючы шарык у роце, і кінула цацку на траву. Убачыўшы свой прыгожы шарык, прынцэса ўзрадавалася, схапіла яго і пабегла прэч.

— Пачакай, пачакай,— закрычала жаба,— вазьмі мяне з сабою, я не ўмею бегаць так як ты.

Яна квакала ўслед з усяе моцы, але дарэмна. Прынцэса не чула яе, яна спяшалася дадому і ўжо забылася пра бедную жабку, якая зноў схавалася ў сваю крыніцу.

На другі дзень прынцэса сядзела за сталом разам з каралём і прыдворнымі і ела са свайго залатога сподачка. Раптам — плюх-плях, плюх-плях — нехта праскакаў па мармуровай лесвіцы, а потым пастукаўся ў дзверы і закрычаў:

— Малодшая прынцэса, адчыні мне!

Прынцэса падбегла, каб паглядзець, хто там. Адчыніўшы, яна ўбачыла...жабу. Бразнула прынцэса дзвярыма і вярнулася да стала.

Ёй стала страшна. Кароль заўважыў, як моцна б'ецца ў дачкі сэрца і запытаў:

— Дзіця маё, што цябе так

( Працяг на стар. 10 )



*Прывітанні з Вільні ад Марылькі Шупы.* **Фота М. В.**




### НЕ ВЫТРЫМАЎ

Настаўнік супакойвае вучняў і загадвае ім:

— Сядзіце ціха, каб можна было пачуць, як муха праляціць.

Вучні доўга сядзяць, аж адзін не вытрымаў:

— Ну, калі ўжо гэта муха праляціць?!

/В. Б./

## КАРОЛЬ-ЖАБА АЛЬБО ЖАЛЕЗНЫ ГЕНРЫХ

( Працяг са стар. 9 )

напалохала? Хіба за дзвярыма стаіць асілак, які хоча схапіць цябе?

— Вох, мілы тата, учора, калі я сядзела ля крыніцы і гуляла з залатым шарыкам, ён упаў у ваду. Я так моцна плакала, што жаба прынесла яго мне. За гэта яна хацела пасябраваць са мною, і я ёй абяцала. Але я ніколі б не падумала, што яна можа выскачыць з вады. Цяпер жаба сядзіць за дзвярыма і хоча ўвайсці.

У гэты час нехта зноў пастукаў у дзверы і закрычаў:

*Малодшая прынцэса,*
*Як магла ты забыцца,*
*Што казала ля крыніцы?*
*Дам я тваім словам веры,*
*Як адчыніш ты мне дзверы.*

Тады кароль кажа:

— Паабяцала — трымай слова. Пайдзі і адчыні.

Адчыніла прынцэса, і жаба паскакала ўслед за ёю да крэсла. Потым спынілася і кажа:

— Вазьмі мяне на рукі.

Прынцэса не адважвалася гэта зрабіць, пакуль кароль не загадаў.

Як толькі жаба апынулася ў крэсле, яна захацела на стол. Усеўшыся на стале, яна прамовіла:

— А зараз падсунь бліжэй да мяне свой залаты сподачак, каб мы маглі есці разам.

Прынцэса адразу ж падсунула, але было бачна, што робіць яна гэта вельмі неахвотна. Жаба ела з задавальненнем, а прынцэсе кавалак не лез у рот.

Нарэшце жаба сказала:

– Я наелася, стамілася, занясі мяне ў свой пакойчык ды прыгатуй сваю ядвабную пасцельку. Ляжам з табою спаць.

Расплакалася прынцэса. Яна гідзілася халоднай жабы і не асмельвалася нават дакрануцца да яе. І зараз жаба будзе спаць у яе прыгожай, чысцюткай пасцельцы!

Але тут кароль раззлаваўся да кажа:

— Нельга зневажаць таго, хто дапамог табе ў бядзе.

Тады прынцэса узяла жабу двума пальчыкамі, паднялася наверх і пасадзіла яе ў куточак.

Легла прынцэса у ложак, жаба прыскакала і кажа:

– Я стамілася, хачу спаць гэтак жа ўтульна, як і ты. Вазьмі мяне да сябе, інакш я паскарджуся твайму тату.

Прынцэса страшэнна разгневалася, схапіла жабу і з усяе моцы стукнула яе аб сцяну: „Цяпер ты супакоішся, гадкая жаба!"

А жаба ўпала і ... ператварылася ў прынца з прыгожымі і добрымі вачыма.

Са згоды прынцэсінага бацькі ён стаў яе найлепшым сябрам і мужам. Прынц распавёў, як злая ведзьма зачаравала яго і ніхто, акрамя прынцэсы, не мог вызваліць яго з крыніцы, і што заўтра яны паедуць у ягонае каралеўства.

Заснулі яны. А раніцаю, калі узышло сонейка, у двор уехала карэта, запрэжаная васьмёркай коней з белымі страўсавымі пёрамі на галаве і ў залатой вупражы. На запятках карэты стаяў служка маладога караля. Гэта быў верны Генрых.

Верны Генрых вельмі смуткаваў, калі ягонага гаспадара ператварылі ў жабу. Ён сціснуў сваё сэрца трыма жалезнымі абручамі, каб яно не выскачыла з грудзей ад болю і самоты.

Карэта павінна была даставіць каралевіча ў ягоныя ўладанні.

Верны Генрых пасадзіў маладых, а сам стаў на запятках карэты, радуючыся, што яго гаспадар вызвалены.

Праехалі трохі, і раптам каралевіч пачуў, як ззаду нешта трэснула, быццам разбілася. Ён павярнуўся і крыкнуў:

— Генрых, нібыта карэта зламалася!
— Не, Вашамосць, з ёй нічога
не сталася.
Гэта зваліўся абруч з майго сэрца,
Што не знаходзіла з болю месца
У час той, калі вы ў крыніцы сядзелі
І на свет божы жабоцькай глядзелі.

Яшчэ і яшчэ раз нешта лопалася на дарозе, і каралевіч зноў думаў, што зламалася карэта.

Але гэта былі абручы, якія адляталі ад грудзей вернага Генрыха, бо ягоны гаспадар выратаваўся і быў шчаслівы.

Пераклад
**Раісы Крывальцэвіч**



### СТАРЫ НОВЫ ГОД (ШЧАДРЭЦ)

Вечар напярэдадні Старога Новага года пасіў назву „Шчадрэц".Атрымаў ён яе ад абрадавай вячэры — „шчодрай куцці". Куцця і сапраўды была шчодрай і багатай. Увішныя гаспадыні „налівалі" крывянку, смажылі кілбасы, ставілі на стол свежаніну, бліны і верашчаку, а пад абрус клалі салому ці сена, загадваючы на будучы ўраджай. Згодна з уяўленнямі старажытных часоў, чаго не было на стале на Новы год, не будзе ў хаце цэлы год, таму і завіхаліся так гаспадары, каб забяспечыць дабрабыт на будучае.

Колькасць страў на стале таксама была магічнай: сем, дзевяць, дванаццаць. Кожны гаспадар, „стаўшы ранелька і ўмыўшыся беленька", абыходзіў усю гаспадарку, абсыпаючы зернем, каб зарадзіўся добры ўраджай. У некаторых месцах абрад засявання выконваўся малымі дзеткамі, што хадзілі ад хаты да хаты, павесіўшы торбу з зернем, і, нібыта сеючы, віншавалі гаспадароў, жадаючы ім дабрабыту і багацця на Новы год. А маладзенькіх дзяўчат цікавіла, вядома, адно: ці хутка яны пойдуць замуж. Загадванні былі самымі рознымі: пра нораў суджанага /памяркоўны ці ліхі/, бедны ён будзе ці багаты, бо вядома, што „за добрым мужам і варонка — жонка, а за благім — і княгіня згіне". Самую прыгожую з дзяўчат апраналі „шчодрай" у святочныя строі. Са „шчодрай" хадзілі па хатах, спявалі песні гаспадарам, жадалі ім усялякіх добрасцяў на ўвесь год і, вядома, не міналі той хаты, дзе былі маладыя хлопцы, жадалі ім добрай жонкі, каб была хлопцу на сэрцу і бацькам даспадобы. За спевы дзяўчатам выносілі пачастунак. Каля кожнай хаты гучала:

*Добры вечар, шчодры вечар,*
*Добрым людзям на здароўе!*

А.М. РАЙКОВА

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

**На небе** шмат белых воблакаў: узімку — да марозу, улетку— да яснага надвор'я.

**Воблакі** ідуць нізка: зімою — перад снегам ці сцюжаю, улетку — перад дажджом.

**Яснае** неба зімою — перад моцнымі халадамі.

**Перад** марозным надвор'ем на захадзе і ўсходзе сонца зараніца жоўтая, залацістая ці пунсовая; яе зеленаваты колер сведчыць пра тое, што халады будуць яшчэ доўга.

**Хутка** світае — перад снегападам.

**Шэрань** на бярозах — да маразоў, бярозы ў тумане — да адлігі.

**Яркі** месяц — заўтра будзе ясны марозны дзень.

### НА КАЛЯДЫ

**Іней** — ураджай на хлеб, завіруха — пчолы добра раіцца будуць, зорная ноч — уродзіць гарох. Пахмурнае надвор'е ў гэты дзень і снег — добры ўраджай вырасце.

**Калі** Каляды надыдуць раней за поўню — год выдасца спрыяльным для будучага ўраджая, калі ў поўню — год згубным для жывёлы будзе.

**Завіруха** на Каляды — дажджы і макрэча ў час жніва, могуць пагінуць зерневыя. Калі ж на Каляды прападзе снег, сенакос дажджлівы будзе.

**Капяжы** са стрэх на Каляды — мокрая восень, бульба вымакне.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



*Замалюй пустыя палі цёмнакарычневым, палі азначаныя крэскай – зялёным, кропкай – светлакарычневым колерам.*

# ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

Дабрачынная акцыя „Дзеці Чарнобыля” агарнула фактычна цэлую Польшчу. Належную актыўнасць у гэтай справе праявілі і беларускія асяроддзі ўключна з Праваслаўнаю царквою. Далучыліся да справы некаторыя гаспадарчыя прадпрыемствы і землякі, пражываючыя за граніцаю, у Злучаных Штатах Амерыкі. Яны, вядомыя з грамадскай ахвярнасці, падкінулі мне думку Уладзіміра Пелясы і Міколы Грэбеня арганізаваць з іх фінансавым удзелам канікулы для пакрыўджаных лёсам беларускіх дзетак. З гэтай мэтай прыслалі яны 1300 долараў. Да справы далучыўся таксама вядомы беларускай меншасці ў Польшчы спонсар Яўген Салагуба — дырэктар суполкі „Біяполь” з Варшавы, ды польскі прадпрымальнік Багуслаў Партыцкі. Абодва яны перадалі на ўтрыманне дзяцей па 10 мільёнаў злотых. Мне давялося ўзяць на сябе арганізацыйныя справы, галоўным чынам забяспечыць адпаведнае месца для адпачынку, добрае харчаванне і санітарныя ўмовы, загарантаваць медыцынскую і выхаваўчую апеку над дзецьмі.

Дзеці: 14 хлопцаў і 6 дзяўчатак пасяліліся на месяц жнівень у дом адпачынку ў падгалянскай вёсцы Букавіна Татржанская ў здаровым горным мікраклімаце. Былі яны адзінымі жыхарамі дома, дык адчувалі сябе зусім вольна са сваімі звычаямі, дзіцячымі гульнямі, радасцямі і клопатамі. На вонак захоўваліся яны карэктна, праяўляючы звычайную беларусам скромнасць. Гэтым, магчыма, заваявалі сабе сімпатыю мясцовых горцаў, што аказвалі ім сардэчную гасціннасць. Групай апекаваліся Таня Музычэнка — школьны інспектар з Лоева і Хрысціна Мiсеюк — студэнтка апошняга курса беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (яна на маю просьбу ахвяравала цэлы месяц канікулаў для апекі над малышамі). Хрысціна стала хутка душою таго дзіцячага маленькага свету, знайшла супольную мову з падапечнымі. Супольныя гутаркі, апавяданні, гульні. Экскурсіі ў горы, вогнішча, а то й помач у індывідуальных клопатах дзяцей забяспечылі ёй пашану і сардэчныя, цёплыя ўзаемаадносіны з дзецьмі, злагодзілі таксама дзіцячы сум па бацьках.

Карыстаючыся нагодай, хачу выказаць вельмі шчырую падзяку самой Хрысціне, а таксама і яе сям'і ў Карыцісках на Беласточчыне, што ўзяла на сябе тую працу ў летнюю пару на гаспадарцы, якая прыпадала на долю Хрысціны. Другая апякунка Таццяна Музычэнка (прозвішча па мужу) — таксама беларуска з Гомельшчыны, мела заданне забяспечыць дысцыпліну, гігіену, парадак і ўдзел у імпрэзах. Спакойная, культурная жанчына, цудоўна валодаючая беларускай мовай, чамусьці да дзяцей звярталася толькі, па-расейску, хоць тыя між сабою паслугоўваліся роднай мовай. Комплекс непаўнацэннасці ці падняволення, а мо абавязак чыноўніка, усё яшчэ страх перад недарэчным абвінавачваннем у нацыяналізме?..

У кожным выпадку задуманая акцыя помачы дзецям выканала на мой погляд, выдатна сваё заданне.

Спонсары атрымалі, апрача падзякі, ўдакументаваную фінансавую справаздачу. Рэшту нявыдадзеных грошай (трыста долараў) атрымала Мітраполія Праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Польшчы з засцярогаю: „Дзецям Чарнобыля”, якая арганізавала летась і арганізуе ў 1992 годзе канікулы для дзяцей з Беларусі.



*Дзеці з вёскі Колпень Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці ў час летняга адпачынку на Падгаллі.*

У Амерыку справаздача выслана Уладзіміру Пелясу, а спісак ахвяравальнікаў даецца ніжэй.

15.XII.91.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

| | |
|---|---|
| Род Казлякоўскіх у памяць бацькі Івана | 200 |
| Уладзімер Пеляса | 115 |
| Расціслаў Завістовіч | 100 |
| Мікола Грэбень | 100 |
| Пётр Манькоўскі | 75 |
| Міхась Сенька | 50 |
| Сяргей Рагалевіч | 50 |
| Лявон Грэбень | 50 |
| Віктар Грэбень | 50 |
| Сяргей Гайшун | 50 |
| Стась Янкоўскі | 40 |
| Віктар Тур | 30 |
| Кастусь Мярляк | 25 |
| Вітаўт Кіпель | 25 |
| Пётр Нядзвецкі | 20 |
| Кастусь Верабей | 20 |
| Ян Азарка | 20 |
| Ігар Шчорс | 20 |
| Юрка Грэбень | 20 |
| Аляксандра (Грэбень) Гаўэс | 20 |
| Рая Станкевіч | 20 |
| Іван Чупрынскі | 20 |
| Зыгмунт Гурын | 20 |
| Уладзімір Арашкевіч | 20 |
| Аляксандр Шастак | 20 |
| Аляксандр Савіцкі | 20 |
| Пётр Зыбайла | 20 |
| Васіль Шчэцька | 10 |
| Сымон Жамойда | 10 |
| д-р Язэп Сажыч | 10 |
| Аркадзь Ярамёнак | 10 |
| Уладзімір Бычкоўскі | 10 |
| Уладзіслаў Татарыновіч | 5 |
| Лявон Кавалёў | 10 |
| Мікола Касцюк | 10 |
| А. Б. | 5 |

Разам: 1.300 ам. дол.




Дарагое Сэрцайка! Я яшчэ малады. У гэтым годзе мне споўнілася 18 гадоў. Але ў апошні час маё жыццё ператварылася ў кашмар. У мяне няма, бадай, іншага выйсця, як закончыць жыццё самагубствам.

Але пачну ад пачатку. Я вучуся ў Бельску ў ліцэі. З вучобай у мяне ўсё ў парадку. Мне цяжка сказаць, ці я прыгожы хлопец, аднак, дагэтуль дзяўчаты не звярталі на мяне ўвагі як на маладога мужчыну. Я часта марыў аб тым, каб сустрэць урэшце дзяўчыну майго жыцця. І вось нядаўна гэта здарылася. Я ўжо даўно звярнуў увагу на адну вельмі прыгожую дзяўчыну (таксама з беларускага ліцэя), але мне не хапала смеласці, каб да яе падыйсці. Таму, калі на адным перапынку яна падыйшла да мяне і пачала размаўляць са мною, я не верыў свайму шчасцю. З гэтага часу мы пачалі сустракацца амаль на кожным перапынку.

Прыкладна месяц таму, на самым доўгім перапынку, яна запыталася ў мяне, ці не хачу я пайсці з ёю ў раздзявальню. Я, нічога не падазраваючы, ахвотна згадзіўся. У раздзявальні нікога не было. На вешалках вісела вучнёўская вопратка, так што нас ніхто не мог убачыць. Дзяўчына села вельмі блізка каля мяне і запыталася, ці яна мне падабаецца. Я сказаў, што так. Пачуўшы гэта, яна ўзяла маю руку і палажыла сабе на грудзі, „каб я адчуў, як моцна б'ецца яе сэрца”. Рука мая, праўда, так трэслася, што я нічога не мог адчуць. Потым яна села мне на калені і мы пачалі цалавацца.

Калі мы ўжо нацалаваліся даволі, мая сяброўка зняла з вешалкі чыюсьці вопратку і разаслала яе на падлозе. Потым легла на яе і пацягнула мяне на сябе, а далей папрасіла, каб я расшпіліў ёй блузку і зняў ліфчык. У той час, калі я гэта рабіў, яна расшпіліла мне распорак — і далей усё пакацілася з горкі. Тое, што мы рабілі, давала нам вялікую прыемнасць і таму ў наступным тыдні мы гэта паўтарылі два разы ў той жа самай раздзявальні.

Прыемнасць прыемнасцю, але я вельмі баяўся, што хтосьці можа ўбачыць, якім чынам мы выкарыстоўваем раздзявальню. Таму я запрапанаваў маёй сяброўцы рабіць далей гэта ў больш спакойным месцы. Яна, аднак, расплакалася і выясніла мне, што яна можа быць цудоўнай палюбоўніцай толькі тады, калі яна знаходзіцца ў небяспецы, калі адчувае, што ў кожную хвіліну хтосьці можа надыйсці, падгледзець. Калі такой пагрозы няма, секс не дае ёй ніякай прыемнасці. Я ўсё ж не пераставаў яе прасіць, пакуль яна не згадзілася, што мы зробім гэта ў яе хаце. Мы падабралі зручны момант, калі яе бацькі выехалі з хаты і... мушу прызнацца: мая сяброўка не памылялася. У нас нічога не выйшла, а найгоршае, што гэта была ў значнай ступені мая віна.

Сэрцайка, ратуй! Як мне цяпер жыць? Ці ўжо да канца жыцця я змагу „гэта” рабіць толькі ў школьнай раздзявальні? Але гэта яшчэ не ўсё. Нас падгледзела адна дзяўчына і хоча далучыцца да нас. Калі б мы не згадзіліся, яна скажа ўсё, што бачыла, дырэктарцы школы, а гэта скончыцца для нас катастрофай. З другога боку, у мяне ледзь хапае сіл на адну дзяўчыну і з дзвюма я гэтага не змагу ўжо рабіць. Калі ты мне не паможаш, астанецца мне хіба толькі самагубства.

**Цецярук**

Хвілінку, Цецярук, не спяшайся канчаць жыццё самагубствам. Небяспечных месц, апрача школьнай раздзявальні, а таксама момантаў і сітуацый у тваім жыцці яшчэ будзе шмат. Да жаніцьбы ж (калі ўжо будзе спакой і хатні ложак) у цябе яшчэ часу даволі. Ты кажаш, што ў хаце тае дзяўчыны ў цябе не выйшла. А ці ж у хаце было бяспечней?! Бацькі ж маглі ў кожны момант вярнуцца. Ды, зрэшты, любіла рызыку пры „гэтым” толькі твая дзяўчына. Дык што, і табе гэта так адразу перадалося?..

Што датычыцца той другой дзяўчыны, дык, пэўна, табе вядома, што на шантажыстаў ёсць адпаведны „параграф”. Скажы ёй аб гэтым. Але адчуваю, як табе робіцца добра на думку аб дзвюх дзяўчатках адразу. Какетка ты, Цецярук! Ага, патрэбна вам яшчэ небяспека?!. Прапаную на вялікім перапынку выгнаць усіх з класа (для праветрывання). Калі застанецеся ўжо там толькі ўтраіх, раю не марнаваць часу і рабіць сваё. Небяспека гарантаваная: можа ж нехта ўвайсці са сваіх, а не давядзі Бог, нават і настаўнік. Во дзе ўцеха будзе!

**СЭРЦАЙКА**




Астроне! Прысніўся мне вельмі цікавы сон, але не ўпэўнена я, ці не прадвяшчае ён штосьці нядобрае. Было быццам лета. Мы з унучкай плаваем па возеры. Вада цёмная-цёмная, ды і наогул быццам была ноч. У гэтай вадзе поўна ўсялякай рыбы, нават вугры плаваюць. Ну, проста аж кішыць ад рыбы. Цяжка нам плыць, бо рыба ўсюды побач нас, плавае неяк на паверхні, амаль не відаць вады без рыбы. Гэтая рыба перашкаджае нам, але мы ўсё ж такі цвёрда пасоўваемся наперад. Раптам збоку на нас наехала ні то нейкая вялікая маторная лодка, ні то яхта. На лодцы нікога няма. Яна, здаецца, пханая вадою, крыху стукнула мяне нават, але болю я ніякага не памятаю. Я лёгка адсоўваю гэтую лодку рукою, быццам бы яна была з паперы, і мы плывем далей. Тады я заўважаю, што на лодцы ляжыць ужо злоўленая, нежывая рыба. Яна, нават ачышчаная. І я бяру яе — навокал нікога не відаць, бо лодка пустая, — але мяне пачынае мучыць сумленне, што я яе ўсё ж украла ў некага.

**Ірына**

Ірына! Твой сон сведчыць аб чакаючай цябе цяжкой, але вельмі выгаднай працы. За гэта гаворыць жывая рыба, але пакольki яна плавала ў цёмнай вадзе, не ўсё пойдзе так гладка, як табе хацелася. Зрэшты, пра нейкія непрыемнасці можна меркаваць з увагі на тую нежывую, ачышчаную рыбу, ды і з таго, што ты яе як бы ўкрала.

**АСТРОН**

## ІМПАРТГУМАР

У аднае жанчыны спыталі, ці ўмее яна берагчы сакрэты.
— А як жа — адказала яна. — Бяда толькі ў тым, што ўсе іншыя, каму я іх раскажу, не ўмеюць.

*

Аднойчы паміж намі дайшло да бойкі. Я яго мехам трах! трах! А ён мяне абухам — цюк! Ён перапалохаўся і давай уцякаць, а мяне, быццам пана, на насілках панеслі.

*

Злодзей, выносіўшы сала, зачапіўся за штосьці ў сенях. Пачуўшы грукат, гаспадар адчыніў дзверы.
— Не купіце сала? — не разгубіўшыся, спытаў злодзей у гаспадара.
— Не, у нас свайго хапае, — адказаў той.
— Тады выбачайце і памажыце мне мяшок закінуць на плечы.

*

— Што ты, Віка, зрабіла б, калі б я цябе пацалаваў?
— Крычала б: мама, мама!
— Ну, а потым што было б?
— Нічога, бо дома нікога мяна.

*

— Цябе бацькі б'юць?
— Яшчэ як!
— А хто больш: маці ці бацька?
— У каго больш свабоднага часу.

*

— Курэнне шкодзіць здароўю.
— Ат, брахня гэта! Мой бацька курыць і дажыў ужо да 80 год.
— Вось бачыш! А калі б не курыў, то было б яму ўжо 90 год.

*

— Як табе, Антось, не сорамна? Усе людзі ў полі, а ты дома ляжыш.
— А як жа я ў гэтым полі наляжу, калі зямля сырая. Прастуджуся яшчэ.

*

Касілі два касцы: бацька і сын.
— Та-ак, мала мы скасілі, — кажа бацька.
— А каму ж тут касіць, — адказаў сын. — Ты стары, я малады.
Селі яны абедаць і добра прылажыліся.
— Ого, — здзівіўся бацька, — як многа мы з'елі!
— А як жа,— адказвае сын, — ты мужчына, я — мужчына.

*

У судзе муж патрабуе развод, а жонка не згаджаецца. У зале сядзіць мужчына і хвалюецца.
Калі муж паўтарае, што з жонкай жыць не будзе, мужчына ўскоквае і з абурэннем крычыць:
— Бач ты, які разумнік знайшоўся: ды з ёй увесь горад жыве, а ён не хоча!

*

Жанчына прыбегла ў паліцыю:
— Мяне згвалтавала пяць мужчын!
— Не хвалюйцеся, знойдзем усіх.
— Усіх не трэба. Толькі першага і трэцяга.

*

Два кішэннікі размаўляюць у турме:
— Бачыў, які гадзіннік у вартаўніка?
— Яшчэ не, пакажы.

*Падборку зрабіў Янка Целушэцкі*







*Мал. Н.Лезінай і В. Коцікава ( „Вожык" )*

## НЕЗНАЁМЫ ПІСЬМЕННІК

У бібліятэку, дзе нядаўна працавала новая бібліятэкарка, неяк завітаў Грышка. Маладая бібліятэкарка вельмі хвалявалася, бо гэта былі яе першыя працоўныя дні. Хваляваўся таксама Грышка, бо крыху саромеўся сваёй роднай мовы, якой ён навучыўся зусім нядаўна. Але надта ж хацелася яму гаварыць па-беларуску.

Крыху памяўшыся, Грышка пачаў гаварыць бібліятэкарцы пра тое, што яго цікавіць, але словы блыталіся ў галаве, язык чапляўся за зубы і застраваў у горле.

Бібліятэкарка слухала ўважліва, але было бачна, што ёй не падабаецца такі неадукаваны хлопец.

— Так что вам принести? — нецярпліва запытала яна.

— А-м-м... Ну...карацей кажучы, пра гісторыю Беларусі што-небудзь...калі ласка.

Апошніх слоў бібліятэкарка ўжо не чула. Яна ўжо хадзіла між кніжнымі сценкамі і нешта шукала. Нарэшце яна вярнулася з пустымі рукамі і спачувальна прамовіла:

— Такого писателя у нас нет, к сожалению.

— Якога? — здзівіўся Грышка. Ён жа не назваў ніводнага з пісьменнікаў.

— Ну как это якого! Ты же сам мне сказал:„Каратей Кажучий. История Белоруссии". Нет такого писателя. Хотя не знаю, посмотри в каталоге.

Грышка не глядзеў у каталог. Што глядзець, калі ён і сам ведаў. Карацей Кажучы і Короче Говоря — гэта не пісьменнікі.

**АЛЕСЬ АЙНА**

## МАРЫЛЯ І АРГАНІСТЫ

Марыля выходзіла замуж. Вось яна просіць арганістага:
— Паночку залаценькі, зайграйце мне на арганах, калі я з дзявочым вянком па галаве буду ісці да шлюбу.
Арганіст любіў падсмяяцца, дык і кажа:
— Добра, але вось бачыш, што калі твой вянок нячысты дзявочы, дык мае арганы будуць скрыпець, а людзі дадумаюцца, што гэта...
Марыля падумала і кажа:
— Ну то можа і не грайце паночку, ці я ведаю... Мо крыху і будуць скрыпець...

*„Авадзень",1925 г.*

## З НОВЫМ ГОДАМ

*Словы і музыка Язэпа Карпюка*

З Новым годам паздраўляем,
З Новым годам усіх вітаем.
Ў Новым годзе паздраўляем,
Ў Новым годзе ўсім жадаем
Шчасця і здароўечка,
І здароўечка.

Ўсім людочкам па ўсім свеце
Ім у небе зоркі свецяць,
Месяц яркі памагае,
Ціхасць ночак асвятляе
І спакойныя ночы сны,
І спакойны сны.

Штодзень з раніцы на шары
Сонейка прыносіць дары,
Прамянямі асвятляе,
Усё жыва аграваe,
Цёплы дар — людзям Зямлі,
Цеплыню — Зямлі.



## КАСЯК НА „М"

**УПРАВА:** 1/ сусед кітайца, 2/ паказвае шлях караблям, 3/ млекакормячая марская жывёліна, 5/ драпежная птушка, лунь, 7/ орган грамадскага парадку ў Беларусі /раней і ў Польшчы/, 10/ род аўтаматычнага пісталета, 12/ вядзе аскетычны спосаб жыцця, 13/ сумесь тлушчу.

**УЛЕВА:** 1/ створаная фантазіяй або беларускі рок-гурт, 2/ меле, напрыклвд каву, 4/ лік, які павялічваем у некалькі разоў, 6/ на касцях, 8/ новае пакаленне, 9/ бачым тое, чаго няма, 11/ у яго вялікія каляровыя крылы, 14/ больш, чым капітан.

**„ЯДАНЬ"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

********************************************

**Ніва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі),Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- styczeń - 12 000 zł.
- luty - 12 000 zł.
- marzec - 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.